# ЗЬМЕСТ.



---

## Да ўвагі школ і атрадаў.

Зьмена зьмену рыхтуе сабе: піонэр—комсамол—К. П. Б

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР

— АДРАС РЭДАКЦЫІ: —
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы БССР,
тэлефон № 443.

№ 9—10 Верасень—Кастрычнік 1925 г.

## Да піонэраў 19-га атраду пры рабфаку Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

**(Артыкул сэкратара Цэнтральнага Комітэту Комуністычнай Партыі бальшавікоў Беларусі тав. А. Крыніцкага да дню гадавіны 19 атраду).**

Тут я хачу абмяняцца з юнымі піонэрамі 19 атраду сваімі думкамі аб тым, якая задача стаіць перад кожным піонэрам.

Першая—гэта стаць комуністым-ленінцам на справе. Задача не такая ўжо лёгкая, як здаецца некаторым таварышом, асабліва ня лёгка ва ўмовах Беларусі. Ленінізм (як і марксізм) гэта—рэволюцыйная тэорыя, утвораная рабочай клясай. Ленінізм—гэта вучэньне рабочай клясы, якое вызваляе ад прыгнечаньня капіталам усіх працоўных, усіх прыгнечаных сьвету. Гэта вучэньне, вылажанае гэніем Леніна, выхоўвалася праз колектыўную сьвядомасьць міліёнаў рабочых на буйных заводах і фабрыках.

Стаць ленінцам—гэта значыць разам з усімі працоўнымі і прыгнечанымі зразумець, што *толькі рабочая кляса* можа стаць на чале сялян, на чале ўсіх працоўных гораду й вёскі і вызваліць ад капіталістычнага ўціску і мукаў усё чалавецтва. Ні бяднейшае сялянства, ні галадуючыя саматужнікі (кустары), ні ніжэйшая інтэлігэнцыя (тыя, хто працуе розумам, а не рукамі)—ніхто ні адна з гэтых клясаў ня можа стаць на чале рэволюцыйнага руху і перамагчы капітал. Гэта можа *толькі пролетарыят, рабочыя фабрык і заводаў.*

І яшчэ—стаць ленінцам гэта значыць—так перакаваць сябе, каб умець весьці змаганьне, думаць і падыходзіць да кожнага пытаньня так, як гэта патрэбна для справы вызваленьня рабочых. Стаць ленінцам комуністым, гэта значыць—зразумець усю цяжар эксплёатацыі рабочых капіталістымі. *Разам з рабочымі* зразумець, што толькі найвялікшая арганізаванасьць, згуртаванасьць, вялікая клясавая сьвядомасьць, толькі рабочая рэволюцыя змогуць вызваліць рабочую клясу ад кайданаў капіталу. А дзеля гэтага трэба ўвайсьці ў шэрагі пролетарскіх рэволюцыянэраў.

Вось чаму юным піонэрам цяжэй, чым гэта думаецца, стаць на *справе* ленінцамі і комуністымі. Піонэры жывуць у большай частцы ня між рабочых. Яны ня ведаюць вялікіх фабрык і заводаў, на якіх у агульнай працы выхоўваецца стальная організаванасьць, вялікая клясавая сьвядомасьць і гатоўнасьць да барацьбы. Праўда, іх акружаюць, напэўна, добрыя людзі, якія жадаюць дабра чалавецтву, але гэтага мала.

Няхай больш за ўсё кожны піонэр вывучвае гісторыю рэволюцыйнага руху. *Няхай кожны піонэр, як можна больш, зьвязваецца, зьбліжаецца з рабочымі.* Гэта дапаможа яму на справе стаць комуністым.

Другая задача—аднапачасна вучыцца і вучыцца па пытаньнях агульных ведаў, асабліва прыродазнаўчых. Кожны піонэр павінен заўладаць паступова ўсімі тымі ведамі, якія набыты чалавецтвам на працягу доўгай гісторыі. Ня можа быць комуністага кіраўніка, будаўніка, які-б ня быў добра падкаваны на чатыры нагі па сваёй агульнай адукацыі (абразаваньню).

І трэцяя задача, для піонэра па мойму вельмі важная,—гэта быць здаровым, навучыцца шанаваць сваё здароўе і правільна разумна яго выкарыстоўваць. Моцна працаваць, моцна аддыхаць. Толькі такі піонэр зможа аддаць шмат сілы справе рабочае *клясы* і ўсіх прыгнечаных.



# Аб задачах піонэраў у школе.

Пачаўся новы навучальны год. Перад кожным піонэрам устаюць вельмі вялікія і цяжкія задачы.

У мінулым годзе піонэры вялі сябе ў школе ня добра: слаба вучыліся, не зьяўляліся прыкладам ў гэтых адносінах дзеля другіх вучняў і мала праводзілі грамадзянскай працы.

У гэтым годзе нам трэба ўсе недахопы мінулага году выжыць. Трэба паставіць працу ў школе на належную вышыню.

*„Піонэр імкнецца да ведаў. Веды і ўменьне—сіла ў змаганьні за справу працоўных“*, так кажа наш пяты піонэрскі закон.

Дабіцца лепшага жыцьця можна толькі пры дапамозе навукі. Вось чаму піонэры, будучыя будаўнікі новага комуністычнага жыцьця, павінны набываць сабе як найбольш ведаў.

Практычныя нашы задачы наступныя:

Выконваць усе задачы школьнага кіраўніцтва, г. з. выконваць школьную дысцыпліну. Не адрывацца ад усёй школьнай працы, якая праводзіцца апрача заняткаў (культурна-асьветная, грамадзянская і г. д.). Не адарвацца ад працы атраду.

Трэба навучыцца разьмяркаваць час так, каб адна праца не перашкаджала другой.

Лёзунг:—*Піонэр усім дзецям прыклад*—ня ўсе піонэры выконвалі ў мінулым годзе, як гэта патрэбна.

Піонэры ў школе вельмі часта вялі сябе ня лепш за іншых вучняў: падымалі шум, праводзілі розныя дрэнныя гульні і г. д. Гэта вельмі дрэнна адбівалася на ўсіх вучнях, бо яны лічылі, што калі можна дрэнна трымаць сябе піонэрам, то можна і ім. А ўсё разам дрэнна адбівалася на вучобе.

Кожны піонэр павінен добра запомніць наступнае: на лекцыях трымаць сябе так, каб не перашкаджаць другім вучням слухаць, а настаўніку чытаць. Добра пераймаць усё тое, аб чым будзе гаварыць настаўнік.

У часе пераменак організоўваць добрыя гульні. Да ўдзелу ў гульнях неабходна прыцягваць усіх дзяцей.

На пустых лекцыях організоўваць гутаркі і чытаць піонэрскую літаратуру.

Апрача ўсяго гэтага, піонэры павінны патроху адвучваць дзяцей ад лаянак і курэньня на аснове 5-га піонэрскага звычаю.

Піонэрам трэба памятаць, што яны ў школе зьяўляюцца такімі-ж вучнямі, як і іншыя.

Не павінна быць для піонэраў ніякіх ільгот у адносінах дысцыпліны і трыманьня.

Галоўным органам па кіраўніцтву ўнутраным жыцьцём вучняў—зьяўляецца Вуч. Комітэт. Яго пастановы і загады павінны выконвацца ўсімі.

Да гэтага часу вельмі часта піонэры падлягалі толькі форпосту. Гэта неправільна. Форпост зьяўляецца органам, які дае ініцыятыву дзеля той альбо іншай працы, дапамагае школьнаму і вучнёўскаму комітэтам праводзіць працу. Яго задачы зьвязаць школу з акаляючым жыцьцём, прыблізіць усіх вучняў да грамадзянскай працы, а ня толькі наглядаць як трымаюць сябе піонэры ў школе. Піонэры павінны сумесна з усімі вучнямі, падлягаючы вучкому, выконваць усе яго загады, дапамагаць вучкому і іншым органам праводзіць працу. Піонэрскі форпост павінен зблізіць усіх дзяцей з грамадзянскім жыцьцём.

Апошняе асабліва важна, бо Ільліч казаў:

*„Маладое ўзрастаючае пакаленьне можа вучыцца комунізму толькі зьвязваючы кожны крок сваёй вучобы з барацьбой пролетарыяту“*.

Праз атрад трэба зьвязаць школу з комсамольскай ячэйкай, з прадпрыемствам, з вясковай школай, дапамагаючы ёй у працы. Апрача гэтага, організаваць вакол школы бяспрытульных дзяцей, вучыць іх і г. д.

4 піонэрскі закон кажа:

*„Піонэр організуе акаляючых дзяцей і прымае з імі ўдзел ува ўсім акаляючым жыцьці.“*

Вось галоўныя задачы піонэраў ў школе.

Пры гэтым трэба памятаць, што добра выканаць усё гэтае можна толькі пры дапамозе старэйшых. Для гэтага трэба прыцягваць да працы настаўнікаў, пытацца ў іх адказаў на незразумелыя пытаньні.

*Галоўнае-ж трэба памятаць, што і ў школьнай працы, як і ў іншай, правадыром зьяўляецца Ленінскі Комсамол.*

**П. Хэйфец.**



# ПЯТРУСЬ У НАВУЦЫ.

*(Малюнак з жыцьця дарэволюцыйнай вясковай школы).*

У адзін прыгожы пагодлівы васеньні дзень на ўзгорку каля Дземянавай хаты сабралася грамада сялян. Тут-жа непадалеку бегалі дзеці. Яны заводзілі свае гульні ў сьвінку, качалі кацёлку, дурэлі, весяліліся.

З канца вёскі паказалася нейкая паненка ў чорнай вопратцы, з вялікім капялюшом, на якім былі панатыканы пер‘я. Пад пахаю ў яе была нейкая вялізная такая-ж чорная, як і яна, кніга.

Паненка падышла да сялян.

— Здравствуйте!—прамовіла яна да ўсіх.

Мужчыны зьнялі шапкі і нізка пакланіліся ў паяс паненцы. Дзеці супыніліся і паразяўлялі раты.

— Настаўніца, настаўніца...—пачалі шаптацца паміж сабою дзеці.

— Посылайте, мужчины, своих ребят в школу!—сказала паненка і накіравалася да школы.

— Гэй, бахуры, айда за паненкаю ў школу!—абазвалася раптам некалькі галасоў да дзяцей.

І ўся чарада дзяцей рынулася за настаўніцаю. Кожнаму хацелася бегчы першаму, і таму на вуліцы падняўся шум і штурханіна дзяцей. Ганна Суржаёва так папхнула Пятруся, што той, небарака, зачапіўся за аскабалак ды ляпнуў у гразь перад «г-жой настаўніцаю». Увесь яе чорны гарнітур пакрыўся буйнымі плямамі ад гразі. Настаўніца скоса паглядзела на Пятруся, але яго ўжо блізка й духу ня было. Толькі ўздагон крычалі яму:

— Трымай яго, трымай!..

* * *

Каля школы сабраліся і дзеці, і бацькі. Старыя разважалі паміж сабою: чыйму сыну ці дачцы колькі гадоў і ці варта іх вучыць. Некаторыя дзеці церліся ля сваіх бацькоў, а другія з цікавасьцю заглядвалі ў вокны пакою настаўніцы. Іх цікавіла тое, чаму настаўніца хавае ў капялюш пеўня, а ня трымае яго ў куратніку. І яшчэ цікавіла іх тое, як гэта певень маўчыць там у яе капялюшы, высунушы на верх толькі хвост. А ня ведалі яны, што гэта былі звычайныя пер‘я, якія насілі такія паненкі на капялюшох дзеля панскай моды.

Але вось пачалася запісь.

— Запішэце, паненачка, майго! Няхай лепш вучыцца, чым меў коўзацца па печы. Штаноў і лапцей не набрацца, паненачка,—тышчылася да настаўніцы Тадора, падводзячы свайго малога Янку. Янка дрыжэў ад страху перад настаўніцай з пеўнем у капялюшы і хаваўся за спадніцу мацеры.



— Как фамилия?—пытаецца настаўніца.

— Не, паненачка, гэта не Амілія, а сынок Янка. У мяне зусім дачок няма,—адказвала Тадора.

—Ну, пакажыся-ж ты хацframework. Ня бойся. Настаўніца... барышня добрая.

—Да не о том вы говорите!—злавалася настаўніца:—как вас на деревне зовут?

— Тадорай, паненачка, завуць,—ня думаючы, выпаліла Тадора.

Напэўна-б нічога і ня вышла з запісьсю, каб не нарваўся на гэты час хвэйчар, які троху ўмеў „пагарадзкому“ гутарыць. Пры дапамозе хвэйчара удалося сяк-так дагаварыцца Тадоры з настаўніцаю.

Пятрусь, які так спрытна і нявіноўна абляпаў гразёю настаўніцу, прасунуўся да стала. Ён быў самы бяднейшы з дзяцей, ня меў бацькі і выглядаў такім пакорным, мурзатым і абарваным, што страшэнна не падабаўся настаўніцы.

— Запішэце мяне...—баязьліва прамовіў Пятрусь.

— Нельзя! Много и так записалось! — сказала настаўніца і згарнула кнігу.

Усе разыходзіліся дамоў у добрым гумары. Толькі Пятрусь ішоў з плачам.

Дома Пятрусь расказаў усё матцы. Назаўтра матка пабегла да «барышні» тройчы пацалавала яе ў руку, падсунула яец, сяго таго і Пятрусь быў запісаны ў вялікую кнігу з чорнымі вокладкамі.

* * *

Заняткі ў школе пачаліся пасьля пакроў. На першы дзень адбылася прамова ў «гарадзкой» мове, якой дзеці ані ў зуб незразумелі і толькі седзячы хваліліся ў каго лепшая шапка ці шчыкаліся.

Палачкі й кручкі троху пісаліся, але з чытаньнем—бяда. У лемантары намалёваны ланцуг, а ў нізе подпіс «цепь".

—Читай!—кажа настаўніца Пятрусёваму суседу...

— Ц-ц-яць, цяпь...—сьлябізаваў той.

— Неправильно! Чытай еще раз!

Хлапец паўтарыў тое самае.

— Не знаешь? На калени!—крыкнула яна й зьвярнулася да Пятруся.

— Читай ты!

Той аднекуль даведаўся, што „*яць*" гаворыцца, а чытаецца *Е*, і пачаў:—ц-е-п-ь, цепь.

— Что это?—пытаецца, паказваючы на малюнак.

— Ланцуг.

— Какой тебе «ланцуг»! --это цепь.

— Цэп ня гэтакі,-—заспрачаўся Пятрусь, —цэпам малоцяць, а гэтым хіба-ж можна малаціць? У Мікіты сабака на гэтакім прывязаны.

— Дурак, что осёл. Ничего не понимаеш!—раскрычалася настаўніца й паказала на другога, але той і трэці ня ведалі, як правільна чытаць, за што стаялі гадзіны па тры на каленях. І гэтак кожны дзень. Што паказвалася ці вучылася, то зараз-жа выбівалася лазінай, а калі аднаго з III-яй групы спытаў прыехаўшы інспэктар „Страказу і Мураўя" то той доўга ня думаючы выпаліў—

„Папругуньня страказа
Яко спаса радзіла".—

Хадзілі да школы толькі таму, што ўсюды ходзяць. У старэйшай клясе былі хлапцы па гадоў сямнаццаць. Сядзелі яны па тры гады ў аднэй клясе, але ўсёроўна нічога ня выносілі.

У хаце старога Яся наладзілі большыя хлапцы аднаго разу вечар. Заклікалі музыку з скрыпкаю уласнага вырабу і пачалі скакаць. Як на бяду нарвалася настаўніца. Хлапцы патушылі агонь да ў дзьверы. Дзьверы былі вузкаватыя і тут усе ўвязьлі разам з настаўніцай. Настаўніца на чым сьвет стаіць пачала крычэць.



Не знаешь?—На колени!

Стары, які спаў на печы, думаў, што гарыць хата, усхапіўся ды ўкрык:

— Пажар! Гвалт! Ратуйце!

У суматосе хлапцы з дзаўчатамі паўцякалі. Назаўтра ўся школа стаяла на каленях. Кожнаму перад каленкамі ўсыпала па тры лапы.

* * *

Гэтак цягнулася жыцьцё Пятруся аж да вясны: тыя-ж лапы, лаянкі, зубрэньне незразумелых слоў.

Толькі сумныя ўспаміны ўсплываюць ад такой школы цяпер, калі глядзіш на нашу новую савецкую школу.

**К. М.**





# ЗЬМЕНА

*(п'еса ў 2-х дзеях).*

**Хто прымае удзел.**

**Казік**—хлопчык 12 гадоў, сын кулака
**Мікола** „ „ „ „ дзяка
**Васіль** „ 11 „ „ беднага селяніна
**Вінцусь**—павадыр піонэрскага атраду (комсамолец)
**Юзік**, **Волька**, **Андрэй**, **Сяргей** — піонэры вясковага атраду па 10-14 г.
**Глякоўскі**—дзяк, п'яніца
**Манішэўскі**—кулак
**Бабуля Волькі**—60-65 г.
**Грышка**—гарадзкі піонэр
**Піонэры й вясковыя дзеці.**

Зьява І-я.

(Сцэна—вясковая вуліца: збоку частакол, будынкі й некалькі дрэў. Каля частаколу сядзяць хлапцы Казік, Мікола й Васіль; гуляюць у пёры).

Васіль: *(прайграўшы)* Я ўжо ня буду больш.

Казік: Чаму?

Васіль: Бо ўжо ніводнага пяра не засталося; з чым я заўтра пайду ў школу? Ды й чаго мы йшлі сюды?! Каб засталіся ў школе на піонэрскіх занятках, дык лепш было-б. Там нешта цікавае расказвае павадыр з настаўнікам.

Мікола: Вось дурань! Якая табе карысьць сядзець ды слухаць як гэтыя „будучыя асмолкі" крычаць і сварацца паміж сабою ды пяюць нейкія дрындушкі?

Васіль: А вось няпраўда, што сварацца. А калі і паспрачаюцца, дык праз карыснае. Але-ж ніколі ня б'юцца.

Казік: *(з усьмешкаю)* Ды аб чым яны карысным гавораць?

Васіль: А помніш: настаўнік сам казаў, што піонэрскі атрад—тое самае, што й школа.

Мікола: Гы-гы-гы. Ну й набярэшся ты там розуму!

Васіль: Ды напэўна больш, як тут седзячы або бегаючы па загуменках!

Казік і Мікола: *(разам)* Ну дык ідзі!.. Ідзі!! Чаго ты сядзіш?

Васіль: І пайду *(устае).*

Мікола: Ідзі! Але ведай, што ты больш наш не таварыш. Калі зловім птушку, дык табе не дадзім!

Казік: От, дурны! Ён настаўніка хоча слухаць!? Ці-ж ты ня ведаеш, што й настаўнік комуністы, што, каб ня ён то й гэтых чарцей піонэраў ня было-б, што толькі...

Мікола: *(перабіваючы)* Каб не настаўнік, то ўсе вучні роўна атрымлівалі-б сшыткі, а то вось Казіку вучком ня даў. Кажуць, што яго бацька багацейшы—можа купіць. Быццам хто вінен, што іх бацькі бедныя.



За гульнёю ў пёры.

Васіль: Бо й праўда. У майго бацькі і капейкі няма, а ў Казікавага шмат ёсьць, бо ён у ботах ходзіць, а я ў лапцёх ды й тых няма з чаго сьплесьці. То за вошта-ж мне бацька купіць.

Казік: Мой тата казаў, што пакажа гэтаму настаўніку за тое, што ня даў мне сшыткаў.

Мікола: А мой дзядзька казаў, што хутка гэтых комуністых чарцей прагоняць.

Васіль: Але-ж праўду настаўнік казаў, што каб комуністых ня было, то зноў прышлі-б паны і адабралі ад нас зямлю й лясы. Ці-ж ня праўда?

Казік і Мікола: (*дражнячы*) Праўда! Праўда!

Казік: У майго бацькі столькі грошай ёсьць, што ён ня толькі хату, а нават і твайго бацьку адкупіў-бы!

Васіль: (*з ухмылкаю*) Дык чаго-ж ты бядуеш што табе сшыткаў ня далі?

Казік: Бо дзе-ж справядлівасьць?

Мікола: Майму тату казаў бацюшка, што ўсё ад бога. Калі бог захоча, то ўсіх комуністых з сьвету зьвядзе.

Васіль: Дык чаму-ж ён ня зводзіць?

Мікола: Во ня хоча.

Васіль: Ага... мусіць, яны богу патрэбны...

Казік: Я, каб меў сілу, дык усіх-бы зьвёў з сьвету і комуністых, і комсамольцаў, і піонэраў, і нават настаўнікаў.

Васіль: Ой, то добра, што ў бадлівай каровы рогі ня вырасьлі. Вы, мусіць, за тое нападаеце на настаўніка, што ён на вашых бацькоў у газэту пісаў.

Мікола: (*з угрозаю*) Пачакай, пачакай, скора яму самі комуністыя на скуры напішуць як завядзецца з імі!

Васіль: Вось як скажу я вучкому або настаўніку, дык будзе вам за вашы словы!

Казік: Папрабуй! Мы тады табе так пакажам, што ты й дамоў не патрапіш вярнуцца.

Васіль: Баюся я вас, як сабака ката.

Мікола: (*устаўшы*) Не баішся?

Васіль: Не баюся!

Мікола: Казік, ён кажа, што не баіцца нас.

Васіль: Бо і не баюся! (*адходзячы*) Вось пайду ў школу, запішуся ў піонэры тады-ж я вам пакажу!

Казік: (*усхапіўшыся*). Ах, ты даўгасіль! Мы-ж табе пакажам! (Даганяюць Васіля й б'юць. Васіль з плачам вырываецца ў бок адкуль чутна песьня п'яных. Казік і Мікола, пачуўшы песьні бацькоў, затрымліваюцца).

Васіль: (*пазнаўшы бацькоў крыўдзіцеляў*) Паглядзіце, бацьком скажу!

Мікола: Здаецца, мой тата йдзе з мястэчка: сягоньня абедню служыў па нябошчыку.

Казік: Але... і мой тата йдзе: праднналог насіў плаціць.

Зьява II-я.

(Уваходзяць дзяк Глякоўскі й кулак Манішэўскі. Абняўшыся пяюць песьню „ой паўным паўна мая каробушка").

Дзяк: (*убачыўшы вучняў*) Чаго вы тут пазьбіраліся.

Васіль: (*плачучы*) Ваш Мікола мяне біў...

Мікола: (*перабіваючы*) Мы дамоў ішлі, дык ён на нас усяк брэша.

Казік: Кажа, што наманіць настаўніку, каб нас вон выгнаў.

Васіль: Гэта-ж вы ў двух мяне білі...

Манішэўскі: (*паважна*) Біцца то ня можна, але сказаць бацьку Васілёваму—трэба. Трэба, каб ён цябе, гіцаль, навучыў як распускаць свой язык. Няхай ён толькі прыдзе да мяне прасіць хлеба, я яму й скажу як ты паганец не паважаеш маіх дзяцей. А настаўніку гаварыць папробуй толькі!

Дзяк: Паслухайце мяне, дурныя авечкі.

Манішэўскі: (*п'яны*). Так, так, як скажа дзяк, то й будзе так.

Дзяк: Пане Манішэўскі, не перапыняй. Я кажу: настаўніку пераказваць вам нічога ня трэба і ня варта нават і слухаць, калі ён будзе гаварыць пра бога і сьвятых яго. Трэба слухаць, што вам кажуць бацькі. Бо хто бацькі ня слухае, той і бога не баіцца. Не паслухаеце бацькі, дык вон з хаты выгане. Біць вас мае права толькі бацька.

Васіль: Дык на што яны мяне білі? (*паказвае на вучняў*).

Дзяк: Нічога—памірыцеся.

Манішэўскі: Пане Гляк... Цьфу! пане дзяк.. пане Глякоўскі...

Дзяк: (*Хутка, пакрыўджана*) Пане Манішэўскі, хочаш кпіць з мяне ці што? У мяне ёсьць свой духоўны гонар. Ты хоць кулак, але супроць мяне—ярунда, пане Манішэўскі!

Манішэўскі: Пане дзяк... Гляк-к-к... Глякоўскі... Я проша, пана, выбачыць, пшы-пшы-пшы прашам, пана. Я прошам, пана, ня гневацца, я пажартавалам.

Дзяк: Я не прызнаю такіх жартаў—смешкаў; сьмешкі—сьмешкамі, а справа—справаю. Гаварыўбы проста, а то з нейкімі выкрунтасамі.

У нас, здаецца, з панам аднолькавыя інтарэсы. Разам ваюем з мужыкамі й бальшавікамі. К пану мужыкі за хлебам ідуць, а мне гэты хлеб нясуць, які мы з бацюшкам і дзелім.

Маніш: Няма мне ніякай карысьці, што вы наш хлеб дзеліце.

Дзяк: Цыц, цыь, пане, цыц!.. Цыцца—будзе ўсім па цыццы, а завідніку—дзьве. Ня ў гэтым справа. А справа ў тым, што нам трэба разам бараніцца ад комсамолаў і піонэраў—бязбожнікаў.

Казік: А Васіль-жа казаў, што запішацца ў піонэрскі атрад.

Маніш: (*пытліва*). Хто? Ён, сукін сын? Прападзе тады ён разам з бацькам. (*да Васіля*) Ты будзеш дурань, калі пойдзеш у піонэры. Яны цябе зьвядуць. Дасі сваю подпісь, тады яны цябе й утапіць могуць. Яшчэ горш будзеш бедным і бацька вон з хаты прагоніць.

Дзяк: Вы не павінны слухаць настаўніка, калі ён будзе казаць запісацца ў піонэры. Вы ведайце, што бог ёсьць і ён бачыць што вы робіце; ён гэтых чарцей піонэраў ня любіць. Вы ў школе трэба каб адгаварвалі ўсіх вучняў, каб яны не запісваліся ў атрад.

Казік і Мік: (*разам*) Адгаворым... Адгаворым.

Васіль: І я ня буду запісвацца ў піонэры.

Дзяк: (*гладзячы па галаве Васіля*) Во, за гэта маладзец! А цяпер ідзеце дамоў і жывеце ў згодзе.

Казік: Будзем! будзем!..

Мікола; Ну, а цяпер пойдзем ужо.

Васіль: Пагуляем тут трошку пакуль будуць ісьці піонэры са школы.

Маніш: А калі яны будуць ісьці?

Васіль: Хутка, разам з настаўнікам. (*Дзеці ціха перашэптваюцца, садзяцца й гуляюць у каменчыкі*).

Маніш: Ну, то пойдзем, пане Глякоўскі, а то іхні вучоны яшчэ ўбачыць ды ў газэту напіша.

Дзяк: Я яго не баюся, пане Манішэўскі. А пайсьці мы яшчэ пасьпеем. Давай вось зацягнем вясёлую!

Манішэўскі: Давай! (*пяюць; дзяк становіцца перад Манішэўскім, як перад хорам, пяе і махае рукамі. Кулак падцягвае*):

Ой паўным паўна мая кладовушка:
Ёсьць і жыта і мука.
Ня тужы, мая галовушка,
Не баюсь бальшавіка.

Дзяк: Ну, досыць! Кінем гэту, а давай лепей зацягнем, пане Манішэўскі, сьвятую.

Манішэўскі: Пан, мысьліш, што я сьвятых песьняў сьпяваць ня ўмею? Пане дзяк Гляк-Гляк-коўскі.

Дзяк: Пан забыўся?

Манішэўскі: Ну, то добра. Я лепей буду пана зваць па йменьні, каб не памыліцца: пане Ільля. О, то пан ёсьць прарок Ільля (*пяе*)—прарок Ільля ўзят на неба жывым і жыве там з гарадавым. Вазмуціцельна!

Дзяк: Ну, тут адно з трох: Ці пан бязбожнікам хочаш быць, ці сьмяешся з маёй веры, ці проста жартуеш.



Манішэўскі: Апошняе.

Дзяк: Ну, калі жарты, то жарты. Я пану раскажу анэкдот: Так кпілі поп з ксяндзом адзін з другога веры. Ксёндз і кажа: І пакі, і пакі, дай попе табакі (*зацягвае па царкоўнаму*) а поп у адказ: О сурт та Орды*)—нюхай пся морда (*совае Манішэўскаму фігу пад самы нос*).

*) Лацінскія словы, якія ўжываюцца пры служэньні імшы.

Манішэўскі: Дык ты гэтак?!

Дзяк: Пэўне, гэтак.

Манішэўскі: Хоць дзяк, але сьвіньня.

Дзяк: Ад такога й чую. Маёй напіўся ды яшчэ й кпіць з мяне!

Манішэўскі: Ах, каб ты смалы напіўся! А ты маёй ня піў? Каб табе столькі скул, сколька ты маіх бутэлек высмактаў! (*сварка ўсё што раз прымае злосны характар. У гэты час чуваць сьпевы піонэраў*).

Казік: (*бяручы за рукаў бацьку*) Тата, ўжо піонэры йдуць!

Манішэўскі: Трэба пайсьці. О, холера!

(*Тыя-ж без Глякоўскага й Манішэўскага*).

Казік: Вось бачыш, Васіль, што табе казалі старэйшыя. Прападзеш, калі запішашся ў піонэры.

Васіль: Казалі... казалі... Яны самі няведаюць, што кажуць, бо п'яныя.

Мікола: Мой бацька п'яны, а разумнейшы як твой цьвярозы.

Васіль: Глядзі, каб скора зусім ня здурнеў.

Казік: Ты зноў спрачаешся, хочаш, каб мы зноў цябе адлупцавалі.

Васіль: А за мяна-ж вучні заступяцца.

Казік і Мікола: Ах, ты зноў, Галадаміра ты! (*наступаюць на Васіля. Васіль бяжыць у той бок адкуль ідуць піонэры. Казік і Мікола ўбачыўшы іх супыняюцца*).

Зьява III.

Васіль: (*Да піонэраў*). Браткі, заступецеся! яны мяне б'юць.

Андрэй: За вошта яны б'юцца?

Сяргэй: Давайце зловім іх ды недаруем за Васіля.

Некалькі хлапцоў: Давайце пакараем іх. (*бягуць за Казікам і Міколам. Яны прабуюць уцякаць, называючы піонэраў сабакамі, асмолкамі і інш. Піонэры іх ловяць; яны з плачам вырываюцца*)

Юзік: Яны цябе білі, а цяпер ты іх адлупцуеш.

Андрэй: Не, хлапцы, лепш зрабіць іначай, а біцца ня можна.

Сяргей: Давайце зробім суд. Абсудзім джгуноў.

Некалькі галасоў: Давайце! Давайце!

Волька: Не чапайце іх, пусьцеце. Яны можа ня білі Васіля.

Васіль: Ня білі... ня білі... Ты ня бачыла. Нават сьмяяліся, што я хачу ў атрад запісацца і бацьком сваім п'яным удавалі, а тыя майму бацьку скажуць, каб мяне адлупцаваў.

Андрэй: Ну, ты Мікола Цудатворац і ты сьвенты Казімеж станавецеся на другі бок: мы вас будзем судзіць. (*Казіка і Міколу паставілі з боку*).

Сяргей: А хто будзе судзіць?

Юзік: Вядома вучком: Сяргей і Андрэй.

Андрэй: Трэба яшчэ Вольку ў судзьдзі.

Волька: Які тут суд на вуліцы?!

Юзік: Трэба ім паказаць як над бедным хлапцом зьдзеквацца.

Казік: Ды мы ня зьдзекваліся над ім... (*з плачам*).

Мікола: (*з плачам*) Мы яго зусім не чапалі. Гэта ён на нас брахаў...

Васіль: Брахаў!.. Брахаў!.. Я вас ніколі першы не чапаў. Вы заўсёды да мяне прычэпіцеся (*уваходзіць павадыр*).

Зьява IV-я.

Павадыр: У чым справа? Што вы думаеце рабіць?

Андрэй: Мы тут зьбіраемся судзіць Казіка з Міколам.

Павадыр: За што?

Сяргей: Яны крыўдзілі Васіля.

Васіль: Я скажу.

Павадыр: Ну кажы.

Васіль: Я з імі разам гуляў тут у пёры дык яны мяне ашуквалі, а пасьля сталі адгаварваць, каб я не запісваўся ў піонэры, а калі я стаў спрачацца, то яны біць пачалі.

Павадыр: Ведаю, ведаю ў чым справа. Мне ўжо гаварыў аб гэтым настаўнік, што іх бацькі супроць школы і піонэраў. Але вось што хлапцы: кіньце вы судзіць, а лепей зрабеце вось як: Ты, Васіль, напішы заяву ў Вучком і апішы ўсё як яны цябе крыўдзілі. Пасьля на агульным сходзе, дзе і я буду з настаўнікам, разгледзім гэту заяву і зробім суд. А цяпер таварышы няма чаго спрачацца. Ты Казік і Мікола ідзеце сюды і давайце ўсе разам сьпяем, а тады пойдзем да хаты

Усе: Давайце! Давайце! Пяюць:

Мы вырасьлі на вуліцах,
На прызьбе пад страхой;
Ня мелі няняк, цацак мы,
Дык білісь між сабой.

*(Глядзі „Комсамольскі Вечар“ № 4)*

Павадыр: Ну, досіць сьпяваць: пойдзем хлапцы дамоў. (*Адходзіць у бок і камандуе: Стройся! Пастроіўшыся піонэры выходзяць пад сьпевы піонэрскага маршу—„Зьяйце агнямі сінія ночы, Мы піонэры дзеці рабочых“... Казік і Мікола ідуць з боку, дзіка паглядаючы на піонэраў*).

*Заслона.*

## Дзея II-я

(Дзея адбываецца вясной, праз паўгода пасьля першай дзеі. Сцэна уяўляе з сябе палянку ў лесе. Сьвеціць сонца. Сьвяточны дзень. Праз некалькі хвілін на палянку выходзіць Казік і Мікола).

Зьява I-я.

Мікола: Вось як нудна сядзець адным. Нават у нядзелю й то не пагуляеш з хлапцамі. Усе яны ў піонэрскім атрадзе: гуляюць, пяюць і ім весела.

Казік: Я-б ужо запісаўся ў атрад, але баюся бацькі.

Мікола: От бачыш! Васіль добра зрабіў што ня слухаў бацькі ды запісаўся. А цяпер ужо й бацька ня крычыць..

Казік: А помніш як мы яго адгаварвалі, каб ён не запісваўся, а цяпер шкада што й мы тады не запісаліся.

Мікола: Калі неяк нашы бацькі тады вельмі сварыліся.

Казік: Я ня ведаю, чаму нашы бацькі так ня любяць піонэраў і комсамольцаў?

Мікола: Мой бацька за тое ня любіць, што яны бязбожнікі.

Казік: Дзеля бацькоў дык і нам дрэнна.

Мікола: Табе дык яшчэ нічога, а мне шмат горш: усюды сьмяюцца, што я духоўнік, што мой бацька п‘яніца.

Казік: Нічога! Скора як падрасьцем ды ня будзем баяцца бацькоў—тады запішамся ў піонэры.— Будзем вучыцца й жыць весела.

Мікола: Ты ведаеш што я надумаўся: давай цяпер запішамся.

Казік: Калі неяк троху страшна: бацька будзе крычаць.

Мікола: А мы зробім так, каб бацькі ня ведалі зразу, а пасьля калі й даведаюцца, то што яны нам зробяць.

Казік: Ды й праўда. У нядзелю будзем хадзіць на сходы, а ў будны дзень дома працаваць. Дык, якая тады справа да нас бацьку?

Мікола: Казаў мне Васіль, што сягоньня піонэры тут будуць зьбірацца на сход. Мы паслухаем, а тады запішамся.

Казік: Добра!.. Давай! (*Уваходзяць піонэры. Дзяўчаты і хлапцы з вянкамі, з рознымі лапкамі з лістоў. Казік і Мікола сядзяць і на усё ўзіраюцца*).

Зьява II-я

Васіль: (*да Казіка і Міколы*) А, добры дзень! Як жывеце? Што і вы на наш сход прышлі?

Мікола: Ага, калі дома нудна сядзець...

Казік: Прышлі паслухаць і запісацца ў ваш атрад,

Андрэй: А-а... Цяпер ужо запісацца, а помніце як вы з нас сьмяяліся й сабакамі абзывалі?

Сяргей: Агледзеліся, а што...

Васіль: А я вам даўно казаў запісвацца. Трэба было бацькі слухаць ды й свой розум мець.

Казік: Мы цяпер ужо ведаем, што ў піонэрскім атрадзе можна шмат чаму навучыцца.

Юзік: Наш атрад ужо разьбіты на зьвеньні. Вось нашы камандзіры (*пакзвае на Андрэя і Сяргея. За сцэнай чуваць крык бабулі: „Волька! Волька!“*).

Волька: Чаго? На што я бабулі?

Зьява III-я

Бабуля: (*Уваходзячы*). Ідзі дамоў! Дасьць табе бацька! Чаго гэта ты ходзіш па лесе? Ці табе дома няма чым заняцца? Вунь сьвіньні стаяць у хляве, а яна тут зьвязалася з гэтымі „піцанэрамі“ ды круціць галаву!

Волька: Калі я адзін дзень тут і пагуляю?! Няхай іх воўк зьесьць гэтых сьвіней! Я-ж чуць не да поўдня іх пасьвіла. (*У часе гутаркі некаторыя з дзяцей сталі пець песьню: „Далоў манахаў“*).

Бабуля: Божа-ж мой, што гэта яны пяюць?

Юзік: Хадзі, бабулька да нас! Мы табе песьню сьпяем.

Бабуля: Мае вы, дзеткі, што з вас будзе? Чаму вы навучыцеся? Зьбяруцца ды пяюць нейкія грахоўныя дрындушкі!.. А пацераў пэўна ня ўмееце?! Ці былі вы калі ў царкве?

Андрэй: Што нам за карысьць маліцца? Што мы папа ня бачылі? Тут мы больш навучымся.

Сяргей: Ды кінь спрачацца. Мы бабулі не пераможам, а яна нас. Праўда, бабуля?

Адна з піонэрак: Хадзі, бабуля, да нас. Мы бабулі вяночкаў спляцем... Сягоньня-ж сьвята піонэрскае.

Бабуля: Ды дзе мне да вас мяшацца!

Андрэй і Юзік: Хадзі... хадзі, бабуля, к нам. У нас весела. (*Бяруць яе за рукі і прыводзяць. Бабуля садзіцца на пні. Дзеці абступаюць яе кругом. Дзяўчаты ўскладаюць вянкі*).

Бабуля: А няхай вас паляруш! Уцягнуць і мяне ў свае „піцанэры“.

Юзік: Вось якая цяпер бабуля аздобная!

Андрэй: А цяпер, хлапцы, давайце станем вакол бабулі ды сьпяем ёй песьню.

Бабуля: Калі неяк, дзеткі, вашы песьні няцікавыя.

Сяргей: Не, бабуля, цяпер засьпяваем добрую.

(*Пяюць на матыў „Ой мы проса сеялі, сеялі“*).

Як мы добра гуляем-гуляем.
І бабульку ўбіраем-убіраем.
Ты, бабулька, добрая-добрая.
Цяпер ты прыгожа-прыгожая.
Мы бабульку шануем-шануем
І вяночкі ўскладаем-ускладаем.
Каб піонэраў любіла-любіла
І на сходы хадзіла-хадзіла.

Бабуля: Ну, ужо досыць, дзеткі, досыць. Гуляйце сабе з богам, а я пайду.



Бабуля: (*адыходзячы*) Ты-ж, Волячка, глядзі, прыходзь хутчэй дамоў.

Усе: Зараз прыдзем усе разам (*бабуля выходзіць*).

Андрэй: Пакуль прыдзе павадыр, давайце сьпяем піонэрскую.

Усе: Давайце! Давайце! (*на матыў „Сьценька Разін“*) пяюць:

Дню комуны на спатканьне,
На разгон жыцьця вясны
Вышлі рацьцю піонэры,
Рэволюцыі сыны.

(*Глядзі Комсамольскі Вечар № 4*).

(*У канцы песьні ўваходзіць павадыр. Усе аддаюць салют*).

Зьява IV-я.

Павадыр: Вось што, хлапцы, сягоньня мы будзем мала займацца дзеля таго, што позна і што да нас прыехаў госьць.

Сяргей: Чаму цябе так доўга ня было? Мы чакалі, чакалі цябе, і пелі й гулялі, а цябе, як няма, дык няма.

Павадыр: Я спазьніўся дзеля таго, што быў на рэпэтыцыі: мы, комсамольцы, зьбіраемся паставіць спэктакль, а падругое, загаварыўся з госьцем (*паказвае на Грышку*)—піонэрам з гораду; ён прыехаў да сваіх родных.

Юзік: Давайце й мы паставім спэктакль.

Усе: Паставім! . Паставім!.

Грышка: Вось што, хлапцы, я прывёз з гораду п'еску, якая можа й вам будзе добра.

Сяргей: Паглядзім! (*глядзяць на кніжку*).

Павадыр: Ну, таварышы, а цяпер да справы.

Андрэй: Перш чым займацца, давайце паабедаем. Ужо есьці захацелася. Я, як знаў, што з сабой узяў.

Яшчэ некалькі галасоў: У мяне таксама ёсьць што есьці.

Павадыр: Ну, то абедайце, але толькі хутка.

Андрэй: Хлапцы, давайце ўсе разам есьці!

Грышка: У нас, у горадзе, таксама часта ямо колектыўна. (*Хлапцы садзяцца й ядуць. У часе яды Казік і Мікола падсоўваюцца бліжэй да павадыра*).

Казік: Што трэба каб запісацца ў ваш атрад?

Павадыр: Будзеце хадзіць да нас на сходы і мы вас прымем.

Васіль: (*учуўшы гутарку*). А цяпер на вас бацькі крычаць ня будуць?

Мікола: Мне й цяпер бацька кажа, каб ня пісаўся, але я ўсёроўна запішуся.

Грышка: Вось што, хлапцы, калі вашы бацькі не дазваляюць, то з імі сварыцца ня трэба. Калі ўгавор нічога не памагае, то тады хоць не запісваючыся ідзеце на сходы і слухайце аб усім, што будзе гаварыцца ў атрадзе.

Павадыр: Ну, таварышы, ужо пад'елі?

Усе: Ужо! ужо! будзе, досыць!

Павадыр: Прызываю да парадку. На чарзе дню у нас сягоньня толькі прамова нашага госьця Грышкі. (*Грышка ад імя піонэраў гораду вітае вясковых піонэраў, гаворыць аб неабходнасьці шчыльнейшай сувязі. Некалькі слоў і прамова канчаецца*).

Павадыр: Ну, цяпер—зьмена, стройся! (*Усе строяцца*).

Павадыр: Зацягнем піонэрскі марш (*п'яюць і выходзяць. Казік і Мікола ў апошніх радах*).

Заслона.

**Я. А. Бабкоўскі.**

# ШТО МЫ СЬПЯВАЕМ

## Ой, з-за горкі...

(на матыў «Ой, пры лужку, пры лужку»...)

Ой, з-за горкі
З-за гары
Сонца мые хаты.
Выплываюць штандары
Юных арлянятаў.

Гэй, наперад, на прывольле..,
Дзе віхрыцца наша воля!
2 разы { Мы йдзем,
мы йдзем
Піонэрскі сьцяг нясем.,.

Піонэрскі сьцяг нясем,
З Ленінскім заветам.
Наша песьня—
Песьня гром,—
Кліч па-над сусьветам...

Гэй, наперад, на прывольле!.. і г. д.

Грудзі поўныя вясны...
З воклічам вясёлым.
Рэволюцыі сыны,
Мы за комсамолам!..

Гэй, наперад, на прывольле!.. і г. д.

Хай ня стыне пена-кроў
На жалезных кратах.
У бой астатні, будзь гатоў!..
За свабоду брата.

Гэй, наперад, на прывольле!.. і г. д.

Сьвет адчынім ім другі,
Хай ня мруць у турмах!..
Разарвем мы ланцугі,
Піонэрскім штурмам.

Гэй, наперад, на прывольле!.. і г. д.

**П. Трус.**

## Марш піонэраў.

Зьзяйце агнямі
Сінія ночы!
Мы піонэры,
Дзеці рабочых (2 разы)

Блізіцца эра
Сьветлых гадоў.
Кліч піонэра:
— Заўжды будзь гатоў!

Будзем расьці мы
Сям'ёю бязьлікай,
Заўжды гатовы
Да працы вялікай! (2 разы)

Прыкладам будзем
Юных байцоў.
Кліч піонэра:
— Заўжды будзь гатоў!

Радасным шагам
З песьняй вясёлай
Сямела ідзем мы
За комсамолам. (2 разы)

Блізіцца эра і г. д.

Згодна зацягнем
Песьню ўдалую.
Сьмела і горда
Мы маршыруем! (2 разы)

Прыкладам будзем...

Мы узьнімаем
Сьцяг свой чырвоны!
Дзеці працоўных
К нам у калёны! (2 разы)

Блізіцца эра і г. д.

**А. Жараў.**

## Мы піонэры.

(На матыў „Белая армія")

Мы піонэры рабочай сям'і—
Дзеці свабодных савецкіх краін.
Сьцяг вызваленьня ўзьнімаем мы ўсе,
Да барацьбы мы рыхтуем сябе.

Гэй, піонэрыя,
Будзь з моцнай верай,
Што зьнішчым зьдзекі і прыгон.
І на ўсім сьвеце працоўных дзеці
Убачаць сонца ясных дзён.

Мы не баімся буржуйскіх сынкоў,
Супраць іх рушым сям'ю ад станкоў.
Дзеці, усе ў піонэрскі атрад,—
Новая ўсходзіць над намі зара.

Гэй, піонэрыя... і г. д.

Жвава за працу, за кніжку хутчэй!
Сьвет комунізму зазьзяе ярчэй.
Дзеці заводаў, сялянскіх палёў—
Новая зьмена старых кавалёў.

Гэй, піонэрыя... і г. д.

Мы піонэры—комуны сыны.
З намі працоўныя—мы не адны.
Сьцяг наш чырвоны затопіць зямлю,
Працы свабоднай зьяднае сям'ю.

Гэй, піонэрыя... і г. д.

**А. Якімовіч.**



# СКОРА

Сёмае студзеня 1970 году. Сьветла, цёпла, сьвяточна і ажыўлена ў „Доме адпачынку“, там, дзе дажываюць свае апошнія дні вэтэраны „Вялікіх гадоў“ сусьветнае рэвалюцыі.

Вэтэраны парашылі ўспомніць сваю моладасьць і дзіцячыя гады. Яны пажадалі ўтварыць у дзень мінулых каляд „елку“, запраўдную елку, такую, якая ўтваралася ў іх жыцьці да гадоў сусьветнага перавароту. Гэтую думку старых з захапленьнем падхапіла моладзь, падросткі і дзеці. Асабліва, калі даведаліся, што «Чырвоная бабулька» будзе апавядаць аб вялікім 1917 годзе.

Елку дастаць было ня зусім трудна, хоць і давялося патаргавацца з колегіяй па ахове лясоў. Але ўсе-ж такі напасьледак удалося ўгаварыць пільных і руплівых вартаўнікоў расьліннага царства, што лес не парадзее ад таго, калі толькі адно дрэўца ўпрыгожыць і аздобіць такое надзвычайнае і дзіўнае сьвята.

Цяжэй была справа са сьвечкамі. Новы спосаб асьвятленьня пры дапамозе электрычнасьці высунуў сабою канчаткова лямпы з газаю нават у самых далёкіх кутках провінцыі. Сьвечак маладое пакаленьне ніколі ня бачыла, і вэтэрану «Вялікіх гадоў» прышлося маляваць сьвечкі і нават зьбіраць спэцыяльную нараду з сяброў народнае гаспадаркі мінулых рэволюцыйных гадоў, каб адшукаць спосабы, як прыгатаваць сьвечкі пры дапамозе рухавых і прыстасованых да ўсялякага гатунку працы рабочых рук энэргічнай моладзі.

Але, калі пасьля шэрагу няўдач, елку ўдалося ўпрыгожыць рознастайнымі каляровымі паперамі, прысмакамі, гарэхамі, смачнымі сакавітымі апэльсынамі, чырвонабокімі яблыкамі і рознастайнымі самаробнымі сьвечкамі ў самаробных апраўах,—і вэтэраны, і моладзь, і дзеці парашылі, як адна душа, што „Дзесятая Комуна“ даўно ня бачыла такога арыгінальнага і цікавага сьвята. Моладзь весялілася, як вяселіцца юнацтва ва ўсе вякі. Жарты, сьмех, песьні, гульні, скокі.

Але даволі было прыгледзяцца да моладзі, каб убачыць, што гэта ўжо ня тая моладзь, якая змагалася на барыкадах у „Вялікія гады“. І яшчэ менш тая, што была пад прыгнечаньнем капіталізму.

Перш за ўсё, моладзь „Дзесятай Комуны“ вызначалася здароўем і сілаю юнага, гібкага і прыгожага цела. У дзяўчатак былі пекныя даўгія косы, якімі яны прыгожа ўбіралі галовы. У комуне пільна прытрымоўваліся правіла, каб у кожнага сябра комуны быў час ня толькі на адпачынак, але й на догляд за сабою. Сябры комуны любілі пекнату і натуральнасьць, ня скрыўлялі прыроду. У хлапцоў была свабодная прыгожая вопратка. У руках іх адчувалася сіла і спрытнасьць.

Сярод усёй моладзі комуны, якая сабралася на сьвята «елкі», ня было ні аднаго хворага, змучанага твару. Ярка блішчэлі задорам прагныя вочы. Сьмелы, гібкі і рытмічны быў рух іх пруткіх юных цел. Але больш ўсяго было радасьці ў пералівах вясёлага сьмеху, які напаўняў сабою прыгожую сьвяточную залю.

Моладзь „Дзесятай Комуны“ любіла жыцьцё, любіла сьмех. Хмурылася яна толькі тады, калі ёй трэба было выходзіць на змаганьне з адзіным ворагам чалавецтва, які застаўся й да гэтага часу—з прыродай. Але хмурылася яна не таму, што барацьба была ёй страшна. Не. Яна жадала лепш прымяркавацца і абраць лепшы шлях, каб напасьці і перамагчы ворага.

З прыродай яшчэ шмат было барацьбы. І чым больш разгадвала прыроду комуністычная грамада, тым больш «загадак» высоўвала яна вучоным, тэхнікам, сьмелым барацьбітом са стыхіяй.

Але моладзь любіла гэту барацьбу. Ды якое было-б жыцьцё без барацьбы, без пе-

рамог, перашкод, бяз прагнага шуканьня розуму, бяз вечнага імкненьня наперад—туды, што для нас невядома і недасягнута яшчэ.

Бяз гэтай барацьбы сумна было-б жыць у Комуне. Жыцьцё наладжана і коціцца наперад па разумна заведзенаму парадку. У кожнага свая спэцыяльнасьць і свая любімая справа. Спэцыяльнасьцю сябры комуны завуць тую працу, якую яны аддаюць для комунальнае гаспадаркі. Працуюць яны ўсяго дзьве гадзіны на дзень. Увесь астатні час кожны займаецца любімай для яго справай: навукай, тэхнікай, выкладаньнем навукі, штукарствам, палепшаньнем апрацоўкі зямлі. Дзяўчаты і хлапцы працуюць разам на аднэй працы. Жыцьцё наладжана так, што жывуць ня сем'ямі, а селяцца па ўзростах. Дзеці ў «Дварцох дзяцей», хлапчукі і дзяўчаткі-падросткі ў вясёлых доміках, акружаных садзікамі, дарослыя ў агульных памяшканьнях, старыя—у «Доме адпачынку».

У Комуне няма ні багатых, ні бедных. Словы: багаты і бедны—забытыя словы. Яны нічога сабой не азначаюць для сяброў Комуны. У сяброў Комуны маецца ўсё, што патрэбна для жыцьця. Адзеньне, яду, кнігу і ўсё іншае—усё гэта дае ім Комуна. За гэта кожны аддае Комуне свае рабочыя рукі на дзьве гадзіны ў дзень і сваю творчасьць, свой розум—за ўвесь астатні вольны ад працы час.

Комуна ня мае ворагаў. Усе суседнія народы і нацыі ўжо даўно пабудавалі і ў сябе фэдэрацыю Комун. Маладое пакаленьне ўжо й ня ведае, што такое вайна.

— Дзядулька, раскажэце аб чырвоным і белым фронце і як вы ваявалі з жывымі людзьмі,—прыставала моладзь к вэтэранам „Вялікіх гадоў“.

Але ў сьвята „елкі“ вэтэранам не хацелася апавядаць аб вайне. Ім здавалася, што лепшым будзе расказаць аб вялікіх правадырох рэволюцыі.

— Няхай дагараць сьвечкі на елцы і няхай дзеці атрымаюць задаваленьне, і тады мы вам раскажам аб вялікіх правадырох рэволюцыі.

Хлапцы пасьпяшаліся ўкаціць у залю шкляныя сталы на калёсцах. На гэтых сталох, у прыгожых мастацкіх вазах, разложаны былі любыя дзіцячыя прысмакі.

— Хутчэй-бы задаволіць сябе гэтымі прысмакамі...

Хутчэй-бы дагарэлі сьвечкі на елцы,—гэтага жадалі хлапцы.

Але вэтэраны са смуткам глядзелі на дагараўшыя агні. Гэтыя агні напаміналі ім мінулае капіталістычнага ладу, якое яны страшна ненавідзелі тады, калі былі такімі юнымі, як і сягоньняшняя комуністычная моладзь. Але гэтае мінулае было поўным для іх вялікімі бурамі, шуканьнямі і дасягненьнямі... Мары іх юных гадоў збыліся. Жыцьцё йшло цяпер міма іх, бо не ўвагнацца ім старэчай ступою за сьмелым палётам юнацтва. Не зразумець ім шмат чаго, чым жыве і аб чым марыць комуністычная моладзь.

— А я знаю, што такое „барыня“!

— А я—што такое рубель і наогул усялякія грошы.

Мы бачылі грошы ў музэі. Дзядулька, а ў цябе таксама былі грошы? І ты іх насіў у мяшочку ў кішэні? І былі людзі... як іх звалі, зладзеі ці што... якія выцягвалі грошы з кішэні таварыша. Гэта праўда? Злодей... Цікава гэта.

І звонкія галасы зьліваюцца ў дружным сьмеху.

А вэтэранам рэволюцыі неяк ня лоўка і крыўдна за тое далёкае мінулае, калі былі і капіталістыя, і зладзеі, і грошы, і барыні.

Дагарэлі астатнія сьвечкі, прынялі сталы з living рознымі прысмакамі. Нецярплівая моладзь абхінула апавядальнікаў.



Куды ён выбраўся?

— Бабулька, чырвоная бабулька! Раскажы аб Леніну. Ты яго сама бачыла? Жывога? Ён жыў, як і ўсе людзі? Еў? Піў? А на зоркі, бабулька, Ленін калі небудзь глядзеў?

Прагліва моладзь і свой у яе да ўсяго падыход. „Чырвоная бабулька“ ківае галавою. Пры чым тут зоры. Тады, калі жыў Ленін, столькі яшчэ бяды было на зямлі... Голад быў. Народ задыхаўся... Голад і вайна... Вайна і голад... Пакуты, ахвяры, кроў... але й рашучая адвага, самаахвяраваньне, вялікая вера ў перамогу і панаваньне рэволюцыі.

„Чырвонай бабульцы“ хочацца, каб уся моладзь зразумела ўсю веліч той мінулай социяльнай барацьбы,—апошняга крывавага клясавага бою.

Але хлапцы й дзяўчаткі слухаюць вэтэранаў, як слухалі яны самі калісьці лягэнду „Калядную казку“.

Капіталы, прыбыткі, прыватная ўласнасьць, нават „фронт“, нават „чразвычайка“, „мяшэчнікі“ і „заградзіцельныя атрады“—усё гэта стала толькі гістарычным мінулым. Дзеці даведваюцца аб іх у школе, калі апавядаюць ім аб „Вялікіх гадох рэволюцыі“.

Туды, у паднябесьсе, у прастары зор зьвернуты пагляд юнакоў сусьветнай комуны... не зразумець ім усёй велічы мінулай барацьбы, не зразумець мінулых радасьцяй і дрыжачага страху за лёс рэволюцыі.

І ты сама, „Чырвоная бабулька“, страляла ў чалавека? У жывога чалавека?

Вочы юных комунараў глядзяць зьдзіўлена, іскрамі сыплецца з іх дакор, незразуменьне...

— Мы самі таксама йшлі на сьмерць!.. Мы ахвяроўвалі ўсё для рэволюцыі,—апраўдваецца „Чырвоная бабулька“.

— Гэтак, як мы для сваёй комуны!..—горда нясецца адказ моладзі.

І бабулька змаўкае... Жыцьцё пашло наперад. „Вялікія гады“, як і ня былі. Не запаліць ужо сэрца юнакоў апавяданьнямі аб харобрым і адважным змаганьні на сусьветных барыкадах у гады „астатняга і рашучага бою“.

Социяльнае пытаньне разьвязана. Ідэя комунізму сябе апраўдала. Чалавецтва вызвалена ад прыгнёту цяжкой наёмнай працы, ад клопату аб куску хлеба.

Новыя, непамерна вялічэзныя, задачы ставіць перад чалавекам яго-ж уласны, праглівы, мяцежны ў шуканьнях дух... І ў параўнаньні з вялікім будучым, якое адчыняецца перад моладзьдзю ў гэты новы 1970 год, уся мінулая социяльная барацьба здаецца для іх зусім простай.

— Голад. Вы галадавалі... Якія-ж вы, „Чырвоная бабулька“, былі дзіўныя няўмекі!

„Неорганізаваныя“ няўмекі—больш страшнейшага прыгавору не змагла вынесьці юная комуна сучасьнікам „Чырвонай бабулькі“.

— Але, дзеці, каб ня мы, ня наша цьвёрдая вера ў перамогу, упартая барацьба з капіталістымі, з ворагамі працоўных—ніколі-б ня ведалі вы шчасьця ўсеагульнай організаванасьці і радасьці свабоднай творчай працы.

— Вы выканалі сваё, мы ведаем. Але нашы задачы—буйнейшыя! Нашы замахі шырэй і неахватней.

Вызавамі ўзьняты маладыя сьмелыя галовы, з задорам глядзяць вочы юнакоў у зорнае неба, якое цёмным колерам засьціле шырокія незавешаныя вокны сьвяточнай залі.

— Вы дасягнулі. Дасягнем і мы. Вы перамаглі социяльныя сілы. Мы пераможам прыроду. Спяем-жа, „Чырвоная бабулька“, з намі наш новы гымн, гымн барацьбы з непакорнай стыхіяй. Ты, бабулька, ведаеш яго матыў: гэта ваш любімы інтэрнацыянал. Але словы нашы, новыя, тыя што клічуць і нас на вялікую барацьбу, на вечнае імкненьне наперад і наперад... Хай дагарэла ўжо вашае сьвята „елкі“. Наша сьвята – наперадзе. Жыцьцё ёсьць толькі ў барацьбе, у вечна-мяцежным шуканьні—не ў дасягненьні...

**Калантай.**




# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Рыхтуйцеся да працы ў школе.

Пачаўся новы вучэбны год. Піонэрам трэба добра падумаць над тым, што трэба зрабіць за гэту зіму, як скарыстаць вопыт мінулага году. У мінулым г. не ўва ўсіх школах былі форпосты. Сувязь форпосту з настаўніцтвам у шмат якіх школах была дрэнңай.

Былі выпадкі, што форпосты стараліся ўвесьці ў склад школьных вучнёўскіх організацый толькі адных піонэраў. Адбываўся падзел вучняў, дзякуючы гэтаму, на два варожых станы.

Усе гэтыя недахопы трэба зьнішчыць у наступным годзе. А самае галоўнае, трэба ў атрадах па мажлівасьці разгрузіць піонэраў-школьнікаў, каб яны маглі выканаць адзін з лёзунгаў Ільліча: „піонэр у школе—прыкладны вучань“.

Піонэр **М. Махнач.**

## Вядзем працу ў сваёй роднай мове.

(*М. Капыль*).

Праз увесь час наш атрад пратаколы і ўсе піонэрскія паперы пісаў парасійску. Нядаўна ўхвалена перайсьці на родную мову, дзеля чаго вывучаем яе. Пакуль што пішам яшчэ ня зусім правільна, але можна сьмела сказаць, што праз месяц-другі навучымся.

**Алесь Малевіч.**

## Атрады растуць.

(*М. Капыль, Случчына*).

Ня гледзячы на тое, што дзеці ўлетку зняты працай па гаспадарцы, лік атрадаў павялічваецца. Так трэці атрад Ю. П. з'організаваўся ў нашым м-ку толькі нядаўна.

Працуе ён добра. Ужо пасьпеў выдаць нумар насьценнай газэты. У выданьні газэты ўсе піонэры атраду прымалі актыўны ўдзел.

Піонэр **Алесь Баравік.**

---

## ПІОНЭРСКАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ.

### Чырвоная армія.

Многа ты ворагаў мела навокал,
Многа франтоў ты разьбіла...
Многа ты вынесла дзён, калі голад і холад
Асіліць хацеў тваю сілу.

Ты сьмела ішла за працоўных
У астатнюю цяжкую бойку.
Ты ўсе народы пад сьцяг наш чырвоны
Злучыш магутнай рукою.

**Янка Маланка.**

### Мы вольныя дзеці.

Мы вольныя дзеці
Краіны сваёй.
Ужо сталі квітнець мы,
Як мак той, у ёй.

Мы горда і сьмела
Шагаем ўпярод...
І песьняй юнацкай—
Завем у паход.

Мы дзеці рабочых,
Мы дзеці сялян;
Даволі нам ночы,
Нам, сонца, буянь...

## Займаемся вучобай.

(*М. Тураў, Мазырскае акругі*).

Другі атрад Ю. П. у нашым м-ку з'арганізаваўся нядаўна. У першыя часы свайго існаваньня атрад ня меў свайго клюбу і вёў працу ў клюбе першага атраду Ю. П. Гэта адбівалася дрэнна на працы.

Тады мы пачалі працаваць на вольным паветры. На занятках чытаюцца часопісі, жыцьцё і праца Леніна, вывучваюцца законы й звычаі Ю. П. Дысцыпліна ў атрадзе на належнай вышыні.

Піонэр 2-га атраду імя Будзённага **Фрыдман.**

## Атрад працуе дрэнна.

(*В. Капцэвічы, Віцебскай акругі*).

У нашым атрадзе ад красавіка не вядзецца ніякае працы. Павадыры кураць і дрэнна глядзяць за дысцыплінай. У атрадзе нязначны процант дзяўчат. Нічога ня робіцца атрадам дзеля таго, каб прывабіць іх у атрад

Піонэр **Выдрэнка.**

## Праца атраду „Рабіс“.

(*г. Бабруйск*).

Пры нашым атрадзе з'арганізаваны коргурток, які выдаў 4 нумары насьценнай газэты. Організуецца куток „МОПР'“. Саюз „Рабіс“ дапамагае нам у гэтым і даў часопісь „шлях МОПР'у“. У жніўні атрад наладзіў вечар, на які былі запрошаны й бацькі піонэраў.

Прысутнічалі й прымалі ўдзел у вечары некаторыя тэатральныя сілы гор. Бабруйску.

Пікор **М. Гэльфер.**

## Ідзем наперад.

(*М. Пертрыкаў, Мазырскае акругі*).

Наш атрад Ю. П. організаваўся год таму назад. Першыя часы працаваць было вельмі цяжка. Ня было свайго клюбу, добрых кіраўнікоў, ні сталае дысцыпліны. Мясцовая ячэйка ЛКСМБ мала зварачвала ўвагі на нас.

Цяпер усе гэтыя недахопы зьнішчаны і мы шпаркімі крокамі ідзем наперад. Замест аднаго атраду мы ўжо маем два і рыхтуемся організаваць трэці атрад. Хутка ўсе дзеці нашага мястэчка ўвальлюцца ў нашы шэрагі.

Пікор. **С Гарбар.**

## Патроху і мы працуем.

(*Мястэчка Кубічы*).

У нашым атрадзе ўсяго 45 чалавек. Атрад носіць імя Карла Лібкнехта. Мы маем свой клюб пры сельсавеце. Праца да гэтага часу йшла слаба, бо быў на ўвесь атрад адзін павадыр. Цяпер-жа кожнае зьвяно мае свайго павадыра. У сваім атрадзе мы з'організавалі ячэйку МОПР'у і выдалі 3 нумары насьценнай газэты. Апрача гэтага, мы праводзім экскурсіі і таксама займаемся фізычным выхаваньнем.

Піонэр **Ражноўскі.**

---

**Выпісвай, пішы і чытай сваю часопісь.**

---

Мы ведаем словы
Дзядулі Ільліча:
Зрываць трэ' аковы,
Пагоны—з пляча!..

Бо шмат яшчэ гіне
У няволі братоў—
Мы пойдзем і скінем
Нядолі аковы.

Мы вольныя дзеці
Краіны сваёй.
Ужо сталі квітнець мы,
Як мак той, у ёй.

Піонэр **Васіль Радчанка.**
(«Маладняк»)

## Касару.

Пагляджу я на луг—
Песьні льлюцца, зьвіняць.
Дружна косы бражджаць,
Па траве шалясьцяць.

Загарэлыя ўсе,
Нібы волаты, йдуць.
І радамі траву
Навакола кладуць.

Сонца парыць, пячэ,
Усё наўкола маўчыць.
Толькі „конік“-піскун
Без спачынку трашчыць.

Піонэр 52 атраду
(Менск)—**Адгалос.**



Спортыўнае выступленьне Узьдзенскіх піонэраў у часе М. Ю. Д-ю.

## Працу пашыраем.

*(ст. Боркавічы, Полацкае акрузі).*

Наш атрад заснаваўся 1-га лютага 1925 г. У атрадзе 49 піонэраў. Шэфам нашым зьяўляецца саюз чыгуначнікаў. Працаваць вельмі цяжка, бо мы ня маем свайго ўласнага клюбу. За ўвесь час свайго існаваньня выпусьцілі 4 нумары насьценнай газэты „Піонэрская праца“ і разам з вучнямі мясцовай школы паставілі 4 дармовых спэктаклі для нашых бацькоў і сялянскіх дзяцей.

Трымаем сувязь з адным гарадзкім атрадам, гэтым самым выконваючы завет нашага дзядулі Леніна—узмацняем сувязь гораду з вёскай.

Піонэр **Кляменцьцеў.**

## Экскурсія ў вёску.

*(Клімавічы).*

26 ліпеня 4 Клімавіцкі атрад піонэраў хадзіў у вёску Дамамрэвічы.

Вясковыя піонэры сустрэлі гарадзкі атрад вельмі прыхільна. Былі праведзены гутаркі аб працы нашага і іх атрадаў.

Увечары піонэры гораду дэманстравалі свае дасягненьні ў клюбе. Было вельмі шмат прысутных, як сялян, так і комсамольцаў і партыйцаў. Вечар зацікавіў усіх прысутных.

Пікоры: **Рэзьнікаў. Казлоў.**

## Атрад падзяліўся.

*(м. Касьцюковічы).*

Нядаўна наш атрад разьбіўся на 2 атрады: Беларускі і Жыдоўскі. Вынікі гэтага падзелу вельмі добрыя. Беларускі атрад узяўся за працу сярод сялянскіх дзяцей і мае посьпех у працы: шмат вясковых дзяцей запісалася ў атрад.

Пры атрадах організаваны дзьве групы «Чырвоных Зорак».

Працаваць цяжка за недахопам літаратуры. З гарадзкімі атрадамі належнай сувязі няма.

За кароткі тэрмін свайго існаваньня нашымі атрадамі перададзена ў комсамол 4 піонэры.

Пікор **Абрамаў.**

## Прыкладны шэф.

*(18-ты атрад, Н. Барысаў).*

Над нашым атрадам трымае шэфства 4-ты Чырвонаштандартны полк. Ён дапамагае нам ва ўсёй нашай працы. Ім пабудаваны для нас лагер, зроблена вопратка, выпісваюцца газэты й часопісі. Для фізычнага выхаваньня піонэраў шэфам вылучаны інструктар.

Шчырая падзяка нашаму шэфу.

Няхай жыве 4-ты Чырвонаштандарны полк!

Пікор **Е. Нікіфараў.**

## Наша насьценная газэта.

*(г. Магілеў, 5 атрад).*

Наша насьценная газэта «Піонэрскі Гудок» існуе ўжо больш году. За гэты час вышла 11 нумароў, ня гледзячы на дрэнныя ўмовы працы атраду. Праца па выданьню газэты пашла добра пасьля таго, як над атрадам узяў шэфства саюз „Рабземлес“. Цяпер газэта выходзіць штомесячна. Піонэры ў выданьні газэты прымаюць актыўны ўдзел. Не застаюцца ў баку й „Чырвоныя Зоркі“. Іх допісы можна бачыць у кожным нумары газэты.

Пікор **Я. Вінецкі.**

## Аб Язэпу і яго нагрузцы..

(*Малюнак*).

Ёсьць у нашай сямёхгадоўцы вучань Язэп Мякіна. Ён шмат займае розных пасад. Папрабую пералічыць хоць па пальцах: 1) сакратар вучкому; 2) рэдактар насьценнае газэты; 3) кляском; 4) сябра таварыс. суда; 5) таргуе ў сваім школьным коопэратыве, у санітарнай камісіі, у бібліотэчнай камісіі і г. д. (бачыце, ужо й пальцаў не хапае).

Вядома, займаўшы гэтулькі пасад, ніякае працы ён не вядзе.

Вось аднаго разу адчыняе дзьверы старшыня драм. гуртка ды кажа: „Язэп! пасьля заняткаў на рэпэтыцыю прыдзеш". Скончыў Язэп заняткі, ідзе на рэпэтыцыю, а па дарозе настаўнік: „Тав., Язэп, хадзем у бібліотэку, трэба кнігі прыняць". Пачухаў Язэп патыліцу ды пашоў ў бібліотэку.

Прышоў. Тут убягае вучань VI клясы: „Ідзі, браце, дай мне 4 сшыткі, пяро і ручку". Тут не пасьпеў ён разабрацца з адным, як гукае другі: „Язэп, Язэп, на пасяджэньне вучнёўскага камітэту. Язэп хутка выбег і забыўся зачыніць краму. Уварваліся сьвіньні, давай наводзіць свой парадак. Пакончыўшы з пасяджэньнем, Язэпу трэба было яшчэ політсуд напісаць, але якраз адкуль ні вазьміся — нялягцеў бацька.

— „Эх, Язэп, хадзі сюды!—Язэп чмыхнуў носам і пашоў у хату.—Ты, што-ж гэта, шчанё, тут разгульваеш? Дома няма чаго табе рабіць.—І давай яго лупцаваць.—Ідзі запрагай каня! —Язэп, усхліпваючы, без адказу пашоў запрагаць каня.

* * *

Вядома, што нам трэба старацца разгрузіць такіх Язэпаў, а то з вялікай работы ён нічога ня зробіць,

Алесь **Баравік**.

# Нашы недахопы.

## Вось дык пастараўся!

(*М. Красналукі*).

Да нас улетку прыехаў з Масквы нейкі хлапец С. Левін. Ён выдаваў сябе за комсамольца і організаваў атрад Ю. П. у нашым мястэчку. Як павадыр атраду, Левін спачатку працаваў добра, але пад канец так пастараўся, што ўсе грошы ад спэктаклю, якія павінны былі пайсьці на выпіску газэт для атраду, патраціў на люльку, тутун і папяросы, а сам уцёк у Маскву.

Піонэры: **Гурвіч.** **Шыфрын.** **Розэнблюм.**

## Піонэры з гонарам.

(*М-ка Самахвалавічы*).

Гарадзкія піонэры павінны абменьвацца вопытам у працы з вясковымі піонэрамі, павінны дапамагаць ім у працы.

Але вось у нашым м-ку якраз ня тое. Да нас, у Самахвалавічы, на ўсё лета прыехалі з Менску чалавек 5 піонэраў. Калі іх запрасілі прысьці ў вясковы атрад абмяняцца вопытамі, яны чамусьці ня прышлі. Ня думаем, што яны з гонарам.

Піонэр **Пазьняк.**

## На неправільным шляху.

(*М. Круглае, Аршанскае акругі*).

У нас маюцца два атрады Ю. П. Але яны слаба паміж сабою зьвязаны. Працуюць раскідана. Павадыры і піонэры ня выконваюць пляну працы. Супольнай працы амаль-што няма.

Піонэр **Я. Бязбожнік.**

## Больш увагі.

На ўсю Беларусь выходзіць толькі адна часопісь «Беларускі Піонэр". Ад гэтай часопісі піонэры павінны атрымаць усё тое, што зьяўляецца для іх незразумелым. Але я, як павадыр „Чырвоных Зорак" пры атрадзе, хацеў-бы атрымаць матар'ял аб працы сярод іх. Але да гэтага часу ніякага кіраўнічага матар'ялу аб працы апошніх ня было. Я лічу, што „Беларускаму Піонэру" неабходна больш зацікавіцца гэтым і зьмяшчаць больш артыкулаў аб працы сярод „Чырвоных Зорак".

Пікор **Абрамаў.**

АД РЭДАКЦЫІ: Рэдакцыя просіць таварышоў піонэраў і павадыроў выказацца па закранутаму пытаньню: ці патрэбна даваць у нашай часопісі кіраўнічы матар'ял аб працы «Чырвоных Зорак».

# Як прайшло сьвята Міжнар. Дзіцячага Тыдню.

Амаль-што няма ніводнага атраду на Беларусі, які-б не сьвяткаваў дзіцячага тыдню. Гэта сьвята захапіла ўсе нашы атрады, якія ў гэты тыдзень рабілі падрахунак сваёй працы і намячалі далейшыя задачы.

Ня маючы магчымасьці зьмяшчаць усе заметкі пікораў, мы зьмяшчаем характэрныя выпісы з прысланых у рэдакцыю лістоў.

Вось што пішуць з Бабруйску:

„5-ты міжн. дзіц. тыдзень прайшоў з асаблівым уздымам. Кожны піонэр вывясіў сьцяг, а некаторыя й лёзунгі. Гаспадары, у якіх і няма піонэраў, таксама вывясілі сьцягі. Наша організацыя дэманстравала на вуліцах свае дасягненьні.

Усе нашы клюбы былі перапоўнены бацькамі і неорганізаванымі дзяцьмі“.

Але не ва ўсіх яшчэ атрадах так прайшло сьвята. Ёсьць яшчэ і недахопы, якія вызначыліся ў тым, што мала зьбіраліся неорганізаваныя дзеці, на што трэба было зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо аднэй з нашых задач з'яўляецца распаўсюджаньне свайго ўплыву і на дзяцей, якія яшчэ да гэтага часу не абхоплены нашай організацыяй.

Т. *В. За—ба*, з Гасьцілавіцкага атраду, Лагойскага раёну, піша:

„Мы ў гэты тыдзень пажадалі склікаць сход неорганізаваных дзяцей, але гэтага нам не ўдалося. Тлумачыцца гэта тым, што неорганізаваныя дзеці вельмі заняты на гаспадарцы.

5-га верасьня, перад сваімі бацькамі і старэйшымі братамі, 15 нашых сяброў далі ўрачыстае абяцаньне, што будуць няўхільна выконваць заветы свайго дзядулі Ў. Ільліча“.

Адным з лёзунгаў дзіцячага тыдню быў— узмацненьне сувязі гарадзкіх піонэраў з вясковымі. Гэты лёзунг практычна і быў праведзены ў жыцьцё некаторымі атрадамі. Трэба толькі пажадаць, каб гэта сувязь ня была выпадковай, а была замацавана і ў далейшым.

Т. *Пісьман*, з Краснапольля, паведамляе:

„30-га жніўня краснапольскі атрад зрабіў выхад у падшэфны кажамякінскі атрад Ю. П.

Сяляне вельмі зацікавіліся нашым сьвяткаваньнем, асабліва, калі піонэры йшлі стройна з песьнямі па вёсцы. Яны (сяляне) вышлі з хатаў і пашлі за намі на сенажаць, дзе мы праводзілі сход і гульні.

Там таксама былі пастаўлены пытаньні: аб М.Д.Т., становішча дзяцей на Захадзе і інш. Было шмат пытаньняў з боку сялян аб дзіцячым тыдню.

Увечары, калі мы зьбіраліся да хаты, жанчыны прасілі нас застацца ў вёсцы. Відаць было, што яны не хацелі з намі раставацца“.

Шчыры ўдзел у сьвяткаваньні прымалі комсамольцы і партыйцы.

Пікор Малышэвіцкага атраду, т. *Чыгір*, піша:

„Першае прывітальнае слова ўзяў сэкратар ячэйкі КПБ, які шчыра прывітаў нас і пажадаў найлепшага посьпеху ў справе і разьвіцьці нашай грамадзкай працы“.

Лёзунг аб сувязі з нашымі братамі на Захадзе і Усходзе быў таксама выкананы атрадамі. Напрыклад, піонэры м. Грозава, Слуцкай акругі, зьбіралі дзеля дапамогі дзецям буржуазных краін грошы і напісалі ліст аб сваёй працы.

Шмат ёсьць посьпехаў. Аб іх пісаць няма сэнсу, бо мы ўсе іх добра ведаем, але трэба зазначыць і недахопы, якія павінны быць зьнішчаны.

Пагранічны атрад у в. Філіпавічы нават і ня ведаў аб сьвяткаваньні. Матар'ялы атрымалі ўжо тады, калі сьвята прайшло. Гэта мы асабліва павінны памятаць пры сьвяткаваньні ў будучым годзе.

Сьвята прыблізіла дзяцей да піонэраў і ўзмацніла аўторытэт піонэраў з боку сялянства і грамадзянства наогул.

Трэба, каб лёзунгі былі выкананы ў практычнай працы кожнага зьвяна і атраду.

**Міхась.**

# Чырвоныя гальштукі ў вёсцы.

*(З запісак інструктара).*

Па глыбокіх калдобінах лясной дарогі ляскатала сялянская драбіна. Мы пераяжджалі апошні лес перад Грозавам. Ехала нас траіх: я і яшчэ двух партыйцаў. Цёмны лес у дажджлівую пагоду першых дзён верасьня наводзіў на нас нейкі сум і разважаньне. Аб гэтым лесе яшчэ і дагэтуль існуе шмат розных жахлівых апавяданьняў з часоў бандытызму. Калісьці страшна было праехаць сюдою.

З нецярплівасьцю чакалі мы, калі мінецца гэта цемень і пральлецца ў цёмную гушчу сьвет з палёў, а там і Грозаў.

Некалькі хвілін і мы апынуліся перад самым Грозавам.

Грозаў—даволі тыповае беларускае мястэчка. Звычайныя драўляныя домікі, гразкія вуліцы, часамі пападаюцца й тротуары з аднэй дошкі ў 4 цалі. Уночы, дык страшна прайці, каб не зламаць сабе ног. Маюцца і крамы, толькі не такія, вядома, як у Менску. І толькі прыгожы выгляд мае цэркаў, якая высока ўзьнімаецца сваёй вежаю над панурымі хаткамі. Але гэта таму, што цэркаў стаіць на высокім узгорку.

Доўга не разглядаючы гэтага мястэчка, мы з адным таварышом накіраваліся на збор беларускага атраду.

У маленькай хатцы на падлозе шчыльна згуртаваліся піонэры. Хто сядзіць падпёршыся локцем на падлогу, а хто пакітайску падгібаў ногі. Але сход адбываецца самы сур'ёзны. У сярэдзіне дзяцей павадыр, стоячы, нібы рэгэнт перад хорам, важна размахвае рукамі і горача з запалам аб нечым гаворыць. З першых-жа слоў мы дагадаліся, што йдзе гутарка аб падзеях у Кітаі. Ідзе падрыхтоўка да Міжнароднага Дзіцячага Тыдню. Таму і агляд падзей у капіталістычных дзяржавах. Трэба быць у курсе справы, аб усім ведаць.

Шэраг пытаньняў... І толькі, як усе ўжо дасканала зразумелі, пераходзяць да бягучых спраў.

У бягучых справах вылучаюць піонэраў для здаваньня ўрачыстага абяцаньня ў дзень свайго сьвята. Цікавы факт. У лік урачыснікаў пападае адна дзяўчынка. Але... бацькі прагоняць яе, калі ўбачаць з гальштукам.

— Што рабіць?

— Пакуль устрымацца. Пераменіцца погляд бацькоў, тады і высунем для здаваньня абяцаньне.

Усе згаджаюцца. Пакуль-што так. Іначай нельга.

Праўда, гэты факт сьведчыць аб тым, што атрад яшчэ слабавата разгарнуў працу між сваіх бацькоў. Трэба падцягнуцца.

У комсамольскім клюбе, пасьля збору атраду, мяне абхінае піонэрыя. Шэпчуцца: з ЦК і ЦБ... Даведваюцца. І пасьля сталага азнаямленьня з клюбам і гутаркі з дзяцьмі—позна ўвечары накіроўваюся на начлег.

* * *

На высокай прыгожай гары распасьцёрліся дамы слаўнага гарадка Капыля. Тут ужо ня тое, што ў Грозаве. Шмат каменных будынкаў, правільныя шырокія вуліцы, вымашчаныя брукам. І нават, калі я спачатку перад Капылянамі абзываў Капыль мястэчкам—мне тут-жа кідалі...

— Якое мястэчка?

У Капыль якраз я прыехаў у дзень М. Ю. Д. Спазьніўся троху і таму папаў толькі на спортыўнае выступленьне комсамольцаў і піонэраў. Выступленьне адбывалася на высокай гары ля царквы, у мясцовасьці, якую празвалі „Швэйцарыяй“.

Але паглядзець мне так і не ўдалося. Кругом тут-жа абхінулі мяне „Чырвоныя Зоркі“. І як яны так хутка даведаліся аба мне? Павісьлі ў мяне на штанох, абхапілі за рукі. Радасныя, вясёлыя, як макавы цьвет тварыкі, з чырвонымі зоркамі на грудзёх.

— Колькі „Чырвоных Зорак“ у Менску?

— Як яны працуюць?

— Калі мы будзем піонэрамі?

Закідалі мяне дзеці запытаньнямі.

Увечары быў назначаны збор аднаго атраду. (У Капылі маюцца тры атрады).

Але калі прышлі мы з павадырамі на сход, то ўбачылі, што замест аднаго—сабраліся ўсе атрады і яшчэ шмат неорганзаваных дзяцей.

У клюбе проста не павярнуцца. Спачатку песьні, шум і г. д. А пасьля—сход. Пытаньні да мяне:

— Колькі ў Менску атрадаў?

— 110—адказваю.

Агульнае зьдзіўленьне...

Далей:

— Колькі „Чырвоных Зорак?“

— 25 груп.

Зьдзіўленьне яшчэ большае.

І позна ўвечары з песьнямі разыходзіліся па хатах дзеці.

Маюцца некаторыя цікавыя факты з жыцьця піонэраў раёну. Напрыклад, у мястэчку Пясочна сяляне пасылалі дзяцей у атрад, каб тыя ня лазілі ў яблыкі, са словамі:

— Няхай вас там навучаць, можна ці ня можна лазіць па садох і агародах.



Чэрвенскія піонэры ў лагеры.

А дэлегаткі райконфэрэнцыі апавядалі, што:

— Раней дзяцей мы, дык богам пужалі, а цяпер павадыром атраду.

Назаўтра пяшком накіраваўся я пад граніцу.

* * *

На некаторы час мне ўдаецца затрымацца ў мястэчку Цімкавічы, а пасьля пападаю ў вёску Быстрыца.

Быстрыца—гэта ўжо, брат, ня горад і не мястэчка табе. Гразі тут, дык па самыя вушы. На вуліцы ў беспарадку валяюцца бярвеньні, карчажыны, каменьні і г. д. Але поруч з гэтым Быстрыцу ўпрыгожвае цэлы шэраг новенькіх жоўценькіх хатак, якія пабудованы ў апошнія гады.

Заходжу ў піонэрскі клюб. Якраз ідзе рэпэтыцыя. Рыхтуюць п'еску „Беларускага Піонэра“ „Лявонка піонэр“. Я ў першы раз бачыў такую шчырую зацікаўленасьць з боку вясковых піонэраў да сваёй справы. Прымаюць удзел маленькія дзяўчаткі—усе піонэркі. Мова чыстая, тыпова беларуская. Развучваньне праходзіць з удзелам настаўніка.

А ўвечары клюб ажывіўся піонэрамі. Прышлі ўсе. І шмат неорганізаваных. Да мяне падыходзіць малыш-хлапчук. У аднэй руцэ трымае ён свае штонікі (мусіць, вырваўся гузік), а другой шморгае па носе. Выгляд даволі сьмешны.

— Ці можна, дзядзя, запісацца мне ў піонэры?—зьвярнуўся ён да мяне.

— Колькі-ж табе, браця, гадоў?—з усьмешкаю запытаўся я гэтага сьмелага і жвавага хлапчука.

— Мама казала—дзевяць,—бойка адказаў ён ня думаючы.

— Трошку пачакай. Хадзі пакульшто на зборы атраду, а там—будзеш піонэрам.

І з якою радасьцю закруціўся гэты будучы піонэр, на аднэйназе паскакаў ад мяне, каб пахваліцца сваім таварышом, што ён будзе хутка піонэрам.

Пасьля Быстрыцы пакіраваўся ў вёску Філіповічы пад самую граніцу.

* * *

Ехалі да вёскі па шасэ, якое ідзе на Брэст-Літоўск. Ужо пад'яжджалі зусім блізка да вёскі, як селянін супыніўся і прамовіў:

— Хопіць. Далей ня можна. Няма пропуску.

Я згадзіўся і накіраваўся ў вёску пяшком. Філіповічы знаходзяцца ад мяжы з Польшчаю ўсяго на адлегласьці 50-ёх сажняў. Філіповічы—мяжа між польскім драпежным арлом, між „дэмократычнай“ Польшчаю і Саюзам ССР. Шасэ ад Філіповіч і да мяжы зарасло мохам і травою. Ніякага руху тут няма. Жыцьцё ў гэтай частцы дарогі замерла. Здалёк ад Філіповіч можна бачыць нашу закардонную Беларусь, дзе гуляе ва ўсю панская нагайка па сьпінах сялян і дзе з кожным днём усё ўзьнімаецца і ўзьнімаецца абурэньне сялян супроць сваіх прыгнятацеляў.

Піонэрскае жыцьцё ў гэтай вёсцы даволі цікавае. Тут роля піонэра самая адпаведная. Прыходзіцца быць кожную хвіліну на варце.

Конь ці карова перабяжыць мяжу і – прапала. Сяляне даволі напуджаныя мінулым і з трывогай паглядаюць на пагранічныя слупы.

Піонэраў у вёсцы маецца ўсяго 11 чалавек (4 піонэркі).

Піонэры працуюць добра. Бываюць выпадкі, калі бацькі і ня пускаюць дзяцей у атрады. Напрыклад. Адна сялянка пабіла свайго сына за тое, што ён увайшоў у піонэры. Але калі пачула аб гэтым у насьценнай газэце—раскаялася, што дрэнна зрабіла.

М. Л.

# ГРЫБКІ.

Нібы ў летні дождж грыбкі,
Расьцём дружна дзяцюкі.

І дзяўчаты, і хлапцы— } Прыпеў
Адным словам малайцы. } 2 разы

Тут нас слаўная сям'я:
Знойдзеш грузда, валуя.
Прыпеў.

Суравежка ёсьць, казьляк,
Бабка, рыжык, ваўкалак.
Прыпеў.

Тут сьвінарка, чашчавік,
Падрашотнік, махавік.
Прыпеў.

Вось апеняк шчытны слой,
Таўстух, порхавак тут рой,
Прыпеў.

Шмат зялёнак і лісіц
І ваўчаначак сястрыц,
Прыпеў.

Мухамораў, ды смарчкоў—
Ня зьлічыць усіх грыбкоў.
Прыпеў

Ўсе ў шарэнгу сталі ў рад:
Любата, а не парад!
Прыпеў

Кожны з нас тут піонэр,
Баравік наш камандзер!
Прыпеў

Калі станем мы пад шнур,
Дык мацней, як сьценкі мур.
Прыпеў.

Дружным строем, як ідзем—
Цьверды, роўны тахт даем
Прыпеў.

Пад каманду раз і два!
Стройна йдзе уся дзятва.
Прыпеў.

Мы умеем трымаць строй—
Кожны з нас ваяк—гэрой!
Прыпеў.

Вораг злы, ня сьпі цяпер!
Бо на варце піонэр!
Прыпеў.

А. Паўловіч.






# НАШЫ ГУЛЬНІ

## ДЗЕ ТЫ?

**Лік гул.** Ад двух зьвён і да цэлага атраду.

**Месца гульні:** Вялікі пакой альбо пляцоўка.

**Дапамогі гульні:** Дубец. Дзьве хустачкі.

**Апісаньне гульні:** Усе гуляючыя становяцца ў кружок. Вылучаюцца двое, якім завязваюць вочы й становяць у сярэдіну кола. Аднаму з іх даюць дубец, якім ён павінен выцяць другога. Абодва ходзяць цішком. Той, у якога дубец, часамі пытае: «Дзе ты?» Другі адказвае: «тут», і хутка цішком мяняе месца. Калі той, у каторага дубец, вытне другога—пачынае гуляць новая пара.

**Мэта гульні:** Разьвівае здольнасьць хутка орыентавацца на гуках.

**Мэтодычныя ўвагі:** Неабходна сачыць, каб тыя, у якіх завязаны вочы не натыкаліся на кола. У апошнім выпадку можна сказаць: «горача» або «агонь». Калі той, у якога дубец, ня вытне свайго сябра ў працягу 5—10 хвілін—пара замяняецца новаю.

## ПА КУЛІ.

**Лік гул.** Ад двух звён да двух атрадаў.

**Дапамогі гульні:** Дзьве палкі, куля (шар, мяч).

**Апісаньне гульні:** Усе гулякі, падзяліўшыся на дзьве партыі, становяцца адзін тварам да другога на працілеглых канцох пакою. Пасярэдзіне, на роўнай адлегласьці ад кожнае партыі, праводзіцца простая рыска. На рысцы кладзецца куля, пасьля чаго па чарзе з кожнае партыі выходзяць гулякі з завязанымі вачыма і палкаю ў руцэ. Задача гуляк—зьбіць за раз кулю. Выйграе тая партыя, у якое перад канцом гульні большая колькасьць правільных удараў.

**Мэта гульні:** Разьвіваецца памяць і ўменьне ў цемнаце орыентавацца.

**Мэтодычныя ўвагі:** Гульню зрабіць больш складанаю можна круцячы гуляк з завязанымі вачыма з тым, каб зьбіць іх з правіловага шляху. Ня можна адначасова пускаць двух гулякаў.

## ВУДА.

**Лік гул.** Атрад.

**Дапамогі гульні:** Вяровачка, на адзін канец якое прымацаваны цяжар.

**Апісаньне гульні:** Усе становяцца ў кружок. У сярэдзіну кружка ставяць піонэра, у якога ў руках вышэйазначаная вяровачка. Па сыгналу ён пачынае круціць кругом сябе па зямлі вяровачку, трымаючы за вольны ад цяжара канец. Другі-ж канец вяровачкі павінен датыкацца ног гуляючых. Пры прыбліжэньні вяровачкі да ног гулякі апошні павінен падскочыць, каб яна не закранула яго. Гуляка, якога закранула вяровачка, становіцца на сярэдзіну з вяровачкай.

**Мэта гульні:** Разьвівае мускулы ног і ўважлівасьць.

**Мэтодычныя ўвагі:** Цяжар на вяровачцы павінен быць не цяжкі і ня гостры. Пры доўгім прабываньні аднаго ў сярэдзіне, яго трэба зьмяняць. Гульня ўзбуджае організм. Патрэбны дыхальныя й супакойваючыя практыкаваньні.

П. Х.

# ХТО ВЫНАХОДЦА (изобретатель) РАДЫЁ.

## Расійскі вучоны—вынаходца радыё.

Хто ў нашы часы ня чуў аб тым, як людзі перадаюць без усялякага дроту чалавечую мову? Дзесяцёхгадовыя дзеці цяпер умеюць рабіць самаробныя радыё-прыёмнікі, будуюць антэны*) і слухаюць концэрты і радыё-газэту. Радыё дайшло і да вёскі. Яно цесна злучае горад і вёску. У далёкіх куткох нашага Саюзу слухаюць магутны голас радыё з Масквы. Лік прыхільнікаў радыё ўзрастае з кожным днём.

За межамі радыё мае яшчэ большае распаўсюджваньне, асабліва ў Амэрыцы. Там прыхільнікі радыё лічацца на мільёны.

Радыё-тэлеграфная справа яшчэ зусім маладая. Усяго толькі 30 гадоў таму назад быў знойдзены спосаб перадаваць тэлеграмы на адлегласьці бяз дроту. Вынаходца гэтага способу — расійскі вучоны *А. С. Папоў*—выкладчык фізыкі міннай кронштадзкай школы і дырэктар пецярбурскага электра-тэхнічнага Інстытуту.

### 8 траўня 1895 году—дзень нараджэньня радыё.

У гэты дзень А. С. Папоў чытаў першую лекцыю аб радыё ня толькі ў Расіі, але й на ўсім сьвеце— на сходзе фізыка-хімічнага вобчаства.

Тут-жа, у прысутнасьці ўсіх, А. С. Папоў паказваў дзейнасьць знойдзенай ім прылады. Пры дапамозе яе ён перадаваў тэлеграфныя сыгналы праз тоўстую сьцяну бяз усякіх правадоў. Сыгналы лавіла другая станцыя з прыёмнай прыладай. Праўда, прылада была не дасканалай, адлегласьць невялікая, але гэта быў пачатак, зародак радыё-тэлеграфіі. Для прысутных гэта здавалася цудам, але было ў той-жа час ужо заўважана, што радыё належыць вялікая будучына.

### Як царскі міністр ацаніў вынаходку А. С. Папова.

Для ўдасканаленьня сваёй вынаходкі і вопытаў А. С. Папову патрэбны былі сродкі. Калі А. С. Папоў зьвярнуўся да вайсковага міністра, каб ён даў 1000 р., міністр на дакладной запісцы А. С. Папова напісаў рэзолюцыю: „На такую химеру средств отпускать не разрешаю“.

Вось якое падтрыманьне дала царская ўлада вынаходцу радыё!

Але ня гледзячы на забарону міністра, тэхнічная камісія адпусьціла яму 250 руб.

Гэтых грошай было мала. І вось А. С. Папоў на гэтыя грошы і на свае ўласныя сродкі, ня гледзячы на цяжкія матар'яльныя ўмовы свайго жыцьця, будуе першую радыё станцыю. Станцыя была пабудавана ў 1897 годзе. Яна перадавала тэлеграмы на адлегласьці 3-х вёрст. Каштавала яна 1500 руб.

### Аварыя браняносца і ратунак 27 рыбакоў.

Гэта было першае практычнае прымяненьне радыё ў жыцьці.

У канцы сьнежня 1899 году толькі што пабудаваны браняносец „Адмірал Апраксін“ накіраваўся з Кранштаду ў загранічнае плаваньне. Карабель зьбіўся з дарогі дзякуючы туману і, недалёка ад берагу, наляцеў на камень і прабіў дзірку. Гэта здарылася каля вострава Готлянду.

Каб забіць дзірку, неабходна было падняць карабель з каменя. Часу гэта справа патрабавала шмат, а зносін з берагам ня было ніякіх.

І вось А. С. Папоў узяўся зьвязаць востраў Готлянд радыё-тэлеграфам з мястэчкам „Коткі“ на Фінскім беразе. Адлегласьць да берагу была 41 вярста. Пачалі рабіць вопыты, ці магчыма на такую адлегласьць перадаваць сыгналы.

Коткінская станцыя перадае сыгналы, а на месцы катастрофы лавілі гэтыя сыгналы пры дапамозе „зьмея“.

Вось як аб гэтым успамінае П. Н. Рыбкін, памоцнік А. С. Папова ва ўсіх вопытах, яго асыстэнт:

„У нядзелю, з вялікай радасьцю, удалося разабраць некалькі літар, пасланых Коткінскай станцыяй. Пачынаючы з гэтага дню, мы прыняліся з вялікай энэргіяй за пабудову станцыі на вызначаным пункце.

У панядзелак 24 студзеня 1900 г. паслалі першую тэлеграму ў Котку. З заміраньнем сэрца чакалі адказу, і раптам зусім выразна раздалося:

„Тэлеграфуйце больш паступова“,—перадае Котка.

У гэты-ж дзень, а 2 гадзіне, з Коткі была атрымана наступная радыё-тэлеграма:

„Камандзіру „Ермака“. Каля Лавенсары адарвала льдзіну з рыбаловамі. Зрабеце дапамогу. Авелан“.

„Ермак“—ледакол накіраваўся на льдзіну з рыбакамі, якім пагражала сьмерць. Позна ўвечары вярнуўся „Ермак“ з 27-ю рыбакамі, якія былі выратаваны толькі дзякуючы вынаходцы радыё-тэлеграфа.

### Як А. С. Папоў дайшоў да сваёй вынаходкі.

Як і ва ўсіх вынаходках, глеба для радыё-тэлеграфа была падрыхтавана шмат якімі вучонымі на працягу цэлага шэрагу гадоў. Вынаходцу толькі трэба было скомбінаваць тое, што было адчынена раней, удасканаліць і даць гэтаму практычнае прымяненьне.

Як вядома, радыё-тэлеграф дзейнічае пры дапамозе электрычных хваль.

Яшчэ раней да вынаходкі А. С. Папова нямецкі вучоны Гэрц знайшоў спосаб узбуджэньня электрычных хваль і вывучыў іх якасьці. Гэтыя хвалі можа ўзбудзіць усялякая электрычная іскра, напрыклад: іскра ў перапыніцелі электрычнага званка, калі ён звоніць, іскра ад электрычнай машыны, альбо катушкі Румкорфа.

Але электрычныя хвалі ня ўбачыш вокам, яны не адчуваюцца нашым целам. Патрэбна была прылада, якая-б магла іх выявіць. Гэта зрабіў француз Бранлі. Яго прылада для ўлаўліваньня электрычных хваляў была вельмі простаю. Яна ўяўляла сабою малень-

*) Аб іх будзе ісьці гутарка ніжэй.

кую шкляную трубачку, напоўненую мэталёвымі апілкамі. Калі да гэтай трубачкі далучыць правады, якія-б ішлі да званка і батарэі, то званок ня будзе званіць, бо праз апілакі ня можа прайсьці электрычны ток. Як толькі хвалі дакрануцца гэтай трубачкі, то зараз-жа апілкі як бы зьліпаюцца, праводзяць электрычны ток, і званок пачынае званіць.

Гэтую прыладу для ўлаўліваньня электрычных хваляў ён назваў *когерэр*, гэта значыць „сцепщик“. Цяпер у радыё-прыёмніках яго замянілі больш чулай і больш зручнай прыладай—дэцэктарам, які добра вядомы кожнаму радыё-аматару.

*Бранлі* і другі вучоны *Лодж* улаўлівалі электрычныя хвалі сваімі прыладамі на адлегласьці 8 мэтраў ад перадатчыка.

Вось гэтыя-то вопыты і наштурхнулі *А. С. Папова* скарыстаць электрычныя хвалі для пабудовы радыё-тэлеграфа. Спачатку ён аб ім і ня думаў. Гэтая думка прышла яму ў галаў трохі пазьней. Ён захацеў праверыць когерэр *Бранлі* на колькі ён можа выяўляць электрычнасьць, якая знаходзіцца ў паветры.

## Навальнічныя тэлеграмы.

Усім вядомы грамаадвод, па якому навальнічныя разрады сьцякаюць у зямлю. Значыцца, для ўлоўліваньня электрычнасьці з паветра патрэбна было пабудаваць нешта падобнае грамаадводу.

Гэта навяло *А. С. Папова* на думку пабудовы антэны. *А. С. Папоў* просіць свайго памоцніка *Рыбкіна* купіць некалькі дзіцячых паветровых шароў. Да шароў прымацавалі дрот, які быў злучаны з прыёмнікам. Шары падняліся далёка ў паветра і паднялі з сабою дрот—антэну.

Званок, далучаны да прылады, пачаў палёгку званіць. Па сутнасьці гэта быў найпросты радыё-прыёмнік, які прымаў навальнічныя разрады.

Але вось пачуўся мацнейшы звон. У чым справа? Дзесьці далёка была навальніца. Гэта яна тэлеграфавала *Папову* аб тым, што яна хутка будзе тут. Гэтая прылада адзначала набліжэньне навальніцы на адлегласьці 30 вёрст.

## Ад навальніца-адзначніка да радыё-тэлеграфа.

Робячы вопыты з сваім навальніца-адзначнікам, *А. С. Папову* прышла думка, што такую прыладу можна скарыстаць ня толькі для таго, каб адмячаць набліжэньне навальніцы, а яна можа быць прыстасавана і для перадачы тэлеграфных сыгналаў. Для гэтага патрэбна было заместа званка далучыць тэлеграфны апарат, пабудаваць моцную перадатачную станцыю і павялічыць чуласьць прыёмнай. Гэтага ён і дабіўся, і прыдумаў схэму першай радыё станцыі. У ёй ня было ні катушак самаіндукцыі, ні кондэнсатараў, ні тэлефоннай трубкі, ніякіх прыстасаваньняў для пабудовы, гэта быў трохі перароблены навальніца-адзначнік. Але ўсё-ж такі такая станцыя магла прымаць сыгналы.

Без адпачынку, цэлымі днямі *А. С. Папоў* разам з сваім памоцнікам робяць вопыты. Даюць сыгналы ўжо на адлегласьці 12 мэтраў. На 4 мэтры больш таго, да чаго дайшлі *Бранлі і Лодж*.

Працаваць з гэтым прыёмнікам ужо было цесна ў адным пакоі. Прыладу перанесьлі ў другі пакой. Яна й там прымала сыгналы. Пераносяць далей—таксама працуе. Зачыняюць дзьверы, перадаецца і праз дзьверы. Мала гэтага, прыёмнік прымае тэлеграфныя сыгналы й праз сьцены ў садзе ад перадатчыка, які знаходзіцца на стале ў габінэце *А. С. Папова*.

*А. С. Папоў* бярэ кусок дроту, прымацоўвае да перадатчыка, а другі канец просіць свайго памоцніка *Рыбкіна* падвязаць як можна больш вышэй да дзерава. *Рыбкін* ніяк ня можа зразумець, як гэта проста вісячы ў паветры дрот, ні да чога не далучаны другім канцом, будзе дапамагаць перадачы электрычных хваляў. А між тым, яны, дзякуючы дроту, дасягнулі такіх вынікаў, што маглі тэлеграфаваць на адлегласьці 80 вёрст. І гэта ўсяго толькі праз два тыдні пасьля пачатку сваіх вопытаў. Такім чынам, за гэты час яны-амаль што ня ў дзесяць разоў павялічылі дзейнасьць сваей станцыі.

Гэта была першая радыё-антэна.

Гонар вынаходкі антэны належыць, выключна, *А. С Папову*. У гэтым яго вялізарная заслуга.

## Другі вынаходца радыё.

У той-жа самы час, калі А. С. Папоў займаўся сваімі вопытамі па бяздротаваму тэлеграфу, другі вучоны, італьлянец *Марконі*, таксама зусім самастойна прышоў да думкі аб бяздротавым тэлеграфе.

*Марконі* быў малады інжэнэр (яму было 21 год) сын багатых бацькоў і таму меў даволі сродкаў для сваіх вопытаў. Першыя часы абодва вынаходцы працавалі, зусім ня ведаючы аб існаваньні адзін другога. Устаноўлена толькі тое, што *Марконі* адкрыў сваю прыладу годам пазьней, чым *А. С. Папоў*. Першыя весткі аб яго вынаходцы зьявіліся ў газэтах у 1896 г. Сутнасьць вынаходкі спачатку была тайнай. І толькі праз год сталі зьяўляцца больш падрабязговыя весткі аб працах *Марконі*.

Дзякуючы сродкам і падтрыманьню вядомых асоб, *Марконі* рабіў хуткія посьпехі і дасягнуў такой далячыні перадачы, што мог перадаваць сыгналы нават праз Атлянтычны океан з Эўропы ў Амэрыку.

Посьпехі *Марконі*, аб якіх гаварылі газэты, прымусілі расійскі ўрад зьвярнуць увагу на свайго вынаходцу і даць яму сродкі для разьвіцьця яго вопытаў.

## Тэлефонная трубка замест тэлеграфнага апарата.

Вайсковае кіраўніцтва, асабліва зацікаўленае ў бяздротавай сувязі для вайсковых караблёў і крэпасьцей, дае *А. С. Папову* шырокую магчымасьць рабіць свае вопыты. *Папоў* устанаўляе бяздротавы тэлеграф паміж фартамі Кронштадзкай крэпасьці і прымае радыётэлеграмы з крэпасьці на вайсковых караблёх, усё павялічваючы адлегласьці.

Адна простая выпадковасьць дапамагла *А. С. Папову* павялічыць адлегласьць у тры разы, на якую перадаваліся сыгналы. Прыёмная станцыя на адным з фартоў крэпасьці перастала працаваць. Сталі правяраць спраўнасьць усіх злучэньняў прылад пры дапамозе тэлефоннай трубкі. Калі ўключылі трубку ў ланцуг прыёмніка заместа тэлефоннага апарата, *Папоў* раптам пачуў выразна ў трубку тэлеграфныя сыгналы з перадатачнай станцыі.

Такім чынам быў знойдзены спосаб прымаць радыё на слух на тэлефонную трубку, што значна павялічыла чуласьць прыёму.

### Далейшая праца і сьмерць вынаходцы.

Радыё тэлеграф настолькі ўжо атрымаў практычнае прымяненьне і настолькі ўдасканаліўся, што ўрад даў *А. С. Папову* камандзіроўку загранiцу для вырабу радыё-апаратаў у вялікай колькасьці і абсталяваць гэтымі апаратамі ўсе вайсковыя караблі. Вялізарная карысьць такой бяздротавай сувязі была ўсім зразумела.

*А. С. Папоў* дагаварыўся з французскай фірмай „Дзюкрэтэ“ аб вырабу яго прыладаў, і праз некаторы час зьяўляюцца апараты новай пабудовы. З гэтымі апаратамі *Папоў* перадае сыгналы на караблёх у Чорным моры на адлегласьць 60 міляў.

Падышла Японская вайна, і радыё апаратаў не хапала для дастаўкі арміі і флёту.

*А. С. Папоў* не пераставаў паляпшаць сваёй вынаходкі і ня кідаў сваёй працы.

І вось нечакана у самы росквіт працы, у 1905 г., жыцьцё вынаходцы, раптам абарвалася. Ён памёр ад разрыву сэрца пасьля бурнае гутаркі з начальнікам гораду адносна студэнцкіх хваляваньняў.

Рэволюцыйны Вайсковы Савет Рэспублікі вынес пастанову, у адзначаньне 30-е гадавіны вынаходкі радыё-тэлеграфа, Маскоўскую Сакольніцкую радыё-станцыю называць імем *А. С. Папова.*

Радыё яшчэ толькі што разьвіваецца. Кожны дзень нясе ўсё новыя й новыя адкрыцьці. Пасьля вынаходкі радыё-тэлеграфа, цяпер ужо вынашйлі (изобрели) радыё-тэлефон, даюць цікавыя вопыты па кіраваньню аўтамабілямі, аэроплянамі і караблямі па радыё. Па радыё-ж навучыліся перадаваць і вобразы. Скора мы будзем ня толькі чуць па радыё, але й бачыць.

Н. Б.

## Як самім піонэрам рабіць пласьцінкі (нэгатывы) дзеля чароўнага ліхтара.

Шмат карысьці і цікавасьці ў піонэрпрацы можа прынесьці чароўны ліхтар, асабліва ў вёсцы.

Пры дапамозе яго можна навочна паказаць усё жыцьцё дзяцей, як у мінулыя, гэтак і ў сучасныя часы.

Гэтак сама пры дапомозе яго можна ўтварыць шмат цікавых і карысных забаў. Наагул пры добрай пастаноўцы працы атраду ліхтар павінен зьявіцца лепшым сябрам.

Возьмем некалькі прыкладаў. Праводзячы прыродазнаўча-навуковую гутарку, напрыклад, аб тым, адкуль зьявіўся чалавек, як ён жыў раней, што рабіў, чаго баяўся і г. д., то ўражаньне тады атрымаецца лепшае, калі гэта ўсё будзе паказвацца на палатне перад вачыма дзяцей.

Пры размове аб ахове здароўя, аб фізычным выхаваньні, гэтак сама добра паказаць дзецям, якім бывае чалавек, які не сачыць за сваім організмам і якім павінен быць піонэр.

Праводзячы масавыя дзіцячыя дні, або сходы бацькоў, ліхтар зьявіцца лепшым штурхачом к самадзейнасьці і зацікаўленасьці дзяцей.

Гэтак сама і ў такіх галінах працы, як вечары, сходы, выклікаецца патрэба ў гэтых ліхтарох.

Уся бяда ў тым, што хоць у нашых вясковых школках, дзе і ёсьць гэтыя ліхтары, але да іх няма патрэбных пласьцінак (нэгатываў), а тыя, якія маюцца, нічога карыснага не даюць ні розуму, ні сэрцу.

— Унесьці новы рэволюцыйны быт у сыстэму пласьцінак—наша чарговае заданьне.

А як гэта зрабіць? Аб гэтым і трэба сказаць некалькі слоў (гэта будзе вопыт Шамаўскага атраду Ю. П., Мсьціслаўшчына). Там дзеці самі навучыліся рабіць гэтыя пласьцінкі, намалявалі на іх усё жыцьцё і дзейнасьць т. Леніна. І вось, калі йдзе на сходзе гутарка аб т. Леніну, дык на палатне, або на сьцены паказваецца т. Ленін ува ўсе поры свайго жыцьця.

Праводзяць гадавіну Чырвонае арміі—на пласьцінках малююць што-небудзь з жыцьця Чырвонае арміі.

Шмат у іх маецца пласьцінак з жартамі, шарадамі, загадкамі. Пакажуць на сьцяне, а піонэры колектыўна і разгадваюць. Усе тыя жарты, шарады, загадкі, якія былі зьмешчаны ў „Беларускім Піонэры“, можна знайсьці ў іх на пласьцінках.

А рабіць гэтыя пласьцінкі можна вось як:

Бярэцца кусок шкла вялічынёю дзеля фанара, чыста вымываецца вадою з мелам, пасьля яму даецца крыху абсохнуць і насуха выціраецца чысьценькай анучкай.

Гэта шкло з аднаго боку пакрываецца тонкім слоем бялка „курынага яйца“, пакрываць бялком трэба малявальнай кістачкай або яшчэ чым, каб не заставалася на шкле крошак і ня было тлуста.

Пакрытаму шклу бялком даецца магчымасьць высахнуць, і тады на тэй старонцы, якая пакрыта бялком, можна воспраізвадзіць малюнак.

Маляваць можна простымі чарнілами ў залежнасьці ад таго, якога цьвету патрэбен малюнак: калі чорны—чорнымі, чырвоны—чырвонымі, розны—рознымі і г. д.

Намаляваўшы такім чынам малюнак, можна паказваць у фанары; гэта і будзе тая пласьцінака, нічым ня горшая ад фабрычнай, і, здаецца, яшчэ лепшая таму, што яе стварылі самі піонэры, і таму, што ў гэту працу могуць быць уцягнуты і тыя піонэры, якія ня ўмеюць маляваць. Стоіць ім толькі ўзяць так падрыхтаванае шкло, як паказана раней, налажыць яго на ўжо намаляваную карціну ў кніжцы ці ў газэце, і праз шкло абвесьці яго, дык атрымаецца такі малюнак, які быў на паперы.

Гэтым будуць зацікаўлены ўсе дзеці, і ў вас можа быць цэлы музэй такіх малюнкаў, лёзунгаў, рэбусаў, загадак і іншага, адбіваючага ўсё жыцьцё і працу піонэр-атрадаў, і вы к кожнаму моманту зможаце прадэмонстраваць сваю працу праз фанар.

Алесь Шматкоў.

## Коргурткі, за працу!

Надыходзіць восень, а сьледам за ёй і зіма. Піонэрскія заняткі з сьвежага паветра пераносяцца ў памяшканьні. Для пікораў гэта найлепшы час у працы. Замест вусных газэт, якія выпускаліся ўлетку, цяпер пачынаюць выходзіць насьценныя газэты.

Самым лепшым спосабам дзеля сталага выпуску насьценнай газэты, для лёгкай і добрай вучобы, для абмену думкамі аб корэспондэнцыях—зьяўляюцца практычныя заняткі. Гэта заключаецца ў наступным: у атрадзе організуецца корэспондэнцкі гурток. Гэты гурток выпрацоўвае тэмы. На тэмы, азначаныя гуртком, пішуцца артыкулы. Артыкулы зачытваюцца тут-жа на сходзе гуртка. Пікоры выказваюцца па данаму артыкулу, дапаўняюць яго. Артыкул пасьля абгаварваньня прымае канчатковую рэдакцыю.

Гэта будзе прывучаць пікораў да сталых адносін да сваёй працы. Пікор будзе бачыць свае памылкі і ў наступны раз іх ня будзе рабіць. Такія практычныя заняткі ўжо пачалі праводзіцца ў некаторых гуртках, але ў большасьці вядзецца так, што пікор нічога й ня ведае аб сваім дапісе; яго выпраўляе рэдколегія ці бюро корэспондэнтаў.

Пры ўжываньні практычных заняткаў трэба мець на ўвазе вось што: тэма выбіраецца самім пікорам з тых, якія агульна гурток намячае, а не назначаецца кім небудзь або заказваецца. У піонэрскіх коргуртках не павінна наглядацца пасыўных адносін да літаратуры. Коргурткі забываюцца, што аднэй з галоўных задач гурткоў зьяўляецца распаўсюджваньне літаратуры, г. зн. піонэрскіх газэт і часопісяй. Іх трэба распаўсюджваць ня толькі сярод піонэраў, але й сярод рабочых і неорганізаваных дзяцей. Трэба ў школах ня толькі агітаваць вусна за выпіску газэт і часопісяй, але пікорам і пісаць у насьценную газэту аб тым, каб кожны вучань ня толькі чытаў піонэрскую літаратуру, але й выпісваў яе.

Кожны пікорскі гурток павінен добра абгаварыць гэтыя задачы і хутчэй правесьці іх у жыцьцё.

**Гэльфер.**

Выданьне: НКА БССР. Рэдколегія: А. Якімовіч. М. Лабадаеў, П. Хэйфец.

# АДКАЗЫ.

**І. Дубку.** Пададзены вамі матар'ял выкарыстаць нельга. Апавяданьне пабудавана вельмі-ж ужо на зьбітым сюжэце. Таму няма ніякай карысьці лішні раз зьмяшчаць аб гэтым. Вершы зусім нявытрыманыя з боку літарутурнамастацкага. Пішэце лепш апавяданьні з сучаснага жыцьця піонэраў і дзяцей. Больш зварачайце ўвагі на літаратурна-мастацкі бок. Возьмем для прыкладу з вашага вершу «Што было і што ёсьць» хоць-бы такія радкі:

...Час ішоў і год за годам
Зьвязь між народам была
І шмат выпадкаў бывала
Помсту паном здабыла...

Гэтыя радкі ні з боку граматычнага, ні з боку лёгічнага, ні з мастацкага—нявытрыманыя.

Піонэру **Адгалосу** (Менск). Зайдзі ў рэдакцыю. Пішы больш вершы. Пішаш ня дрэнна.

**Баркану.** Прышлі канец апавяданьня. Рэдакцыя атрымала ад цябе толькі 3 часткі. Друкаваць з працягам нявартa, бо яно ня лішне вялікае.

**Л. А. Ражноўскаму** (Полацак). Верш ня пойдзе. Слабаваты. Трэба яшчэ папрацаваць над вершам самому і тады прысылай. Лепш усяго бяры тэмы для пісаньня з штодзённага жыцьця піонэраў—бытавыя. Агульныя лёзунгі ў вершы, якія ты даеш, ня цікавы.

**Кавалёву** Апавяданьне «За старэйшых братоў» будзе скарыстана ў № 11. Пішы больш.

**Хадкевічу.** (Полацак). Допіс ня пойдзе. Нічога конкрэтнага ты ня пішаш. Пішы аб асобных момантах працы атраду.

**П. Цішдраву.** Мы лічым, што друкаваць допіс аб нядбайнасьці піонэраў вашага атраду ня варта. Трэба гэтае пытаньне абгаварыць на зборы атраду, знайці прычыны, якія перашкаджалі ў працы, і пастарацца на будучы год павесьці добра працу ў сваім агародзе.

**Малевічу** (Капыль). Некаторыя апавяданьні пастараемся выкарыстаць. Даем табе раду: лепш менш пішы, але больш думай над апавяданьнем і ўважліва адносься да задуманай тэмы. На сьпех пісаць не гадзіцца. Трэба некалькі раз паправіць самому пасьля таго, як напішаш. Рэдакцыя сама ня можа цалкам перарабляць апавяданьні.

**Віктару.** Верш «Вашым Катам» не падыходзіць да нашай часопісі. Слабы.

**А. Руднянскаму** (Менск). Верш друкавацца ня будзе. У вершы няма поўнага зьместу, які патрэбна было даць на пастаўленую тэму.

**Бакіноўскай.** Матар'ялы слабаватыя. Трэба яшчэ папрацаваць над сабою ў галіне мастацкай літаратуры.

**Я. Вінецкаму.** Рэбус у цябе ня ўдаўся. Рэдколегію, якая спазьнілася выданьнем насьценнай газэты, прыцягваць да адказнасьці нельга, бо напэўна былі нейкія прычыны, дзякуючы чаму яна не сваечасова падрыхтавала нумар. Аб працы зьвяна напішы ў сваю газэту.

**Хадыку.** Адрас часопісі «Піонэр»:—Масква, Стары пляц 10. Верш у беларускай мове, які вы прыслалі, друкаваць ня будзем таму, што ён нічога ня мае піонэрскага. Пішэце нам дзіцячыя і піонэрскія творы. Пішаце вы нішто сабе.

**Коп—ату.** Допіс «Каюцца» друкавацца ня будзе. Нязначны факт. Іншыя допісы скарыстаем. На запытаньні адказваем:

1. Аб тым, што піонэры кураць. Калі піонэр курыць, значыць ён ня выконвае піонэрскага звычаю—«піонэр ня курыць». Калі ня выконвае свайго звычаю, ён ня можа лічыцца піонэрам. Папрабуйце яшчэ раз на савеце атраду напомніць такім таварышом аб гэтым. Калі не паможа—савет атраду мае права паставіць пытаньне аб умоўным выключэньні такіх піонэраў з атраду.

2. Ці можна насіць гальштукі піонэрам, якія ня здалі ўрачыстага абяцаньня?—Зразумела, што ня можна. Павадыр у гэтым вінаваты.

**І. Мазо.** Допісы аб лагерах спазьніліся.

**Кляменьцьцеву.** Пытаньне. 1) Ці могуць піонэры, малодшыя 14-ёх гадоў, паступіць у комсамол, калі яны даволі праявілі сваю актыўнасьці?

**Адаз:** Ня могуць.

2. Ці можна ў піонэр-насьценнай газэце пісаць аб комсамольцах, якія дрэнна сябе трымаюць?

**Адказ:** Ня варта. Ячэйка мае сваю газэту і там аб іх напішуць.

Галоўлітбел № 13218. 2500 экз.
Менск, 2 дзярж. друк. БДВ № 4743.




### Жартоўныя запытаньні.

1. Дзе рэкі без вады? Гарады бяз людзей?

2. Ігралі ўсю ноч і ўсе засталіся ў выйгрышах. Хто гэта?

3. Калі кожны з нас здаволены маленькім яблыкам?

### Зад. літараў. № 1. Дз. Мі—кі.

— аб —
— па —
— дз —
— зяні —
— дкул —
— арасьця —
— к —
— еця —
— д —
— ы —

Дадаць патрэбныя літары, заместа рысак, каб можна было прачытаць 10 слоў, а зьверху ўніз прозьвішча бел. поэты (зьлева) і імя і прозьвішча другога поэты (справа); абое памёршыя.

### Задача № 2. Дз. М.

Бацька паслаў сына ў краму купіць рознага тавару, даўшы яму 1 руб. Сын купіў што трэба і прынёс рэшты 19 кап. На паперы тавару крамнік напісаў лік рэшты, не дадаўшы толькі слова „капеек“... Бацька злічыў грошы і сказаў, што не хапае 42 кап. Пашоўшы ў краму, бацька скора паняў у чым справа. Непаразуменьня ня было: сын прынёс усю решту, колькі і належала. У чым справа?

### Зад. № 3. Дз. Мі—кі.

БЕЛЬ
ЗАЛА
КРУК
СКАЗ
КІМ
ПІЛА
СЛОН
ГЭРЦ[1])

Ад кожнага слова адкінуць па 2 літары, каб застаўшыяся склады далі назву аднаго беларус. выданьня.

[1]) Знаток, плут.

### Зад. № 4. Дз. Міхалкі.



У клетках квадрата разьмясьціць літары слоў, каторых значэньне па шэрагу: 1 пара—году; 2—лыжы; 3—нота; 4—крык болю; 5—назва літары; 6—ангельскае мерка даўжыні; 7—зьвер; 8—расьліна. Літары, якія прыдуцца ў клетках з кропкамі, адкінуць; застануцца літары, якія дадуць па шэрагу поўнасьцю прозьвішча сучаснага нашага пісьменьніка.

### Зад. № 5. Дз. М.






Дадзеныя крыжычкі пераставіць і палажыць у радок, закрываючы па аднэй літары, як паказана ніжэй, каб можна было прачытаць адзін вядомы выраз з верша Я. Купалы.

---

**Прозьвішчы таварышоў, якія разьвязалі задачы ў № 8 і разам з гэтым, будуць зьмешчаны ў чарговым нумары.**






# ПІОНЭР!

## Што ты зрабіў для пашырэньня падпіскі на сваю часопісь „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР"?

**Усе школы, вучні і настаўнікі павінны выпісваць, чытаць і пашыраць між дзяцей сваю часопісь „Беларускі Піонэр"**

**НЯМА ШКОЛЫ, якая ня выпісвае 10 ЭКЗЭМПЛЯРАЎ часопісі „Беларускі Піонэр".**

## Усе ПАДПІСВАЮЦЦА на часопісь „Беларускі Піонэр".

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР" зьмяшчае багатыя аддзелы: літаратурны, практычны для працы дзяцей і піонэраў, жыцьцё школ і атрадаў, популярна-навуковы аддзел—„Чырвоныя Зоркі", жарты і задачы, гульні, жыцьцё дзяцей ва ўсім сьвеце і шэраг іншых матар'ялаў.

**„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР" высылае сваім дапішчыкам ДАДАТКІ, цікавую навейшую дзіцячую літаратуру, якая пачынае друкавацца ў роднай мове.**

Усе піонэры і дзецi **прымаюць удзел у часопісі:** самі пішуць корэспондэнцыі, вершы, апавяданьні і інш.






### УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | | |
|---|---|---|
| На 3 месяцы | (3 нумары) | — 60 к. |
| „ 6 „ | (6 „ ) | 1 р. 20 к. |
| „ 12 „ | (12 „ ) | 2 р. 40 к. |

Падпісацца можна ў любым паштова-тэлеграфным аддзяленьні або ў паштовых агентаў, якія маюць на гэта пасьведчаньні.

**Рэдакцыя падпіскі ня прымае.**